

Жыве Беларусь!

# БЕЛАРУС

Address: P. O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735

BIELARUS / Belarusan newspaper in Free World
Published by the Belarusan American Ass'n Inc. ISSN 1054-9455

№ 508 Травень 2005 г.
Год выданьня 55

## Слова на Чарнобыльскую гадавіну

прамова сп. Віталя ЗАЙКІ на мітынгу ў Нью Ёрку 26. 04. 05

Мінае 19 гадоў з часу найжахлівейшай экалягічнай катастрофы ў Беларусі — аварыі на Чарнобыльскай атамнай станцыі ў былым СССР. Вырасла пакаленьне людзей, народжаных пасьля катастрофы. Няма ўжо СССР, які па камуністычнай традыцыі ймкнуўся схаваць праблему, замесьці яе, як кажуць тут у Амэрыцы, пад палавік. Тыя мясцовыя камуністычныя партбосы адыйшлі, у Беларусі новае кіраўніцтва, і нават новая назва — "РБ". Шмат чаго памянялася. Не памяняліся толькі 2 рэчы. Гэта — радыяцыйнае забруджаньне, і нялюдзкае стаўленьне кіраўніцтва да людзей, пацярпеўшых ад Чарнобылю.

Як у зоне радыяцыйнага забруджаньня, так і ў асяродках, дзе жывуць перасяленцы з зоны, працягваюць паміраць людзі ў росквіце сілаў, моладзь, дзеці, народжаныя пасьля Чарнобылю. Большасьць дзяцей, што застаюцца жыць на забруджаным абшары, маюць павялічаную шчытападобную залозу, што адказвае за імунітэт арганізму, і маюць нізкі ўзровень гэмаглябіну ў крыві. Умовы жыцьця пагаршаюцца. Людзям не хапае мэдычнай дапамогі, лекаў, тавараў першага попыту. Яны працягваюць харчавацца прадуктамі, што вырашчаныя й выробленыя на забруджанай зямлі, працягваюць есьці й піць радыяцыю.

І ў гэты самы час рэжым Лукашэнкі аб'яўляе, што "забруджаньне — гэта ня страшна", што сельгаспрадукцыя на забруджаных землях — чыстая, што "цыбуля і гарох не ўспрымаюць радыяцыю". Лукашэнка рэгулярна робіць у красавіку прапагандысцкія ваяжы ў зону бяды, дзе заяўляе, што ў зоне можна і трэба жыць, што паказчыкі радыяцыі там ніжэй, чым у Менску.

У студзені ўрад аб'явіў 48 вёсак Гомельшчыны "чыстымі ад радыяцыі". Але жыхары, пазбаўленыя чарнобыльскіх ільготаў, пытаюцца:"Куды-ж падзелася тая радыяцыя? Няўжо яе можна пазбыцца праз дэкрэты й загады?"

Сёлета лукашэнкава "палата прадстаўнікоў" адмовілася ад штогадовых парляманцкіх слуханьняў па Чарнобыльскай праблеме. Маўляў, "трэба рыхтавацца да мерапрыемстваў да 20-годзьдзя Чарнобыля ў 2006 годзе, цяпер няма часу".

Рэжым Лукашэнкі, што скасаваў ільготы інвалідам Чарнобылю ды шэрагу іншых катэгорыяў пацярпелага насельніцтва, таксама фактычна забараніў гуманітарную дапамогу з-за мяжы, і спыніў вываз дзяцей з зоны на аздараўленьне за мяжу. Між тым менавіта з замежжа, у тым ліку ад беларускай дыяспары, паступала шмат дапамогі. Вельмі шмат зрабіла спн. Івонка Сурвілла, якая яшчэ ў 1992 годзе заснавала ў Канадзе фундацыю, праз якую ў Беларусь паступілі дзясяткі тысяч даляраў дапамогі, у тым ліку ад беларусаў Паўночнай Амэрыкі, тысячы дзяцей падмацавалі здароўе ў ЗША і Канадзе. Сёньня, нажаль, дзейнасьць гэтай ды іншых структураў, што дапамагалі Беларусі, паралізаваная рэжымам Лукашэнкі.

На забруджаных тэрыторыях, дзякуючы карупцыі мясцовых органаў улады й патураньню збоку рэжыму Лукашэнкі, ідзе легалізацыя незаконных імігрантаў з Расеі, Каўказу і Сярэдняй Азіі. Навапрыбылыя чужынцы за грашы скупляюць дамы, праз хабар атрымліваюць прапіску і права на высяленьне ў чыстыя зоны — як правіла, Менск і буйныя гарады. У некаторых мясьцінах чужынцы літаральна тэрарызуюць мясцовых жыхароў-беларусаў, пачуваюцца гаспадарамі. І гэта на руку рэжыму, бо ясна, што чужынцы без каранёў у гэтай зямлі, без павагі да мясцовай культуры і звычаяў — ідэальны электарат, што будзе галасаваць за Лукашэнку.

Дагэтуль няма яснага і навукова абгрунтаванага аналізу наступстваў аварыі. Няма сумленнай статыстыкі па колькасьці завосрваньняў і сьмяротнасьці. Згодна з дадзенымі арганізацыі, у якую ўваходзяць ліквідатары з усяго былога СССР, за гэтыя гады памерла каля 13 тыс. ліквідатараў, усе яны маладога і сярэдняга ўзросту. А колькі-ж памерла такіх-жа мясцовых жыхароў, што былі амаль у тых жа ўмовах, што і ліквідатары?—Ніхто не лічыў. (Дарэчы, ёсьць зьвесткі, што Чарнобыль — не адзіная атамная бяда ў Беларусі, што ў 1960-я гады атамная зброя выпрабоўвалася на адным з палігонаў у Палесьсі, у Столінскім раёне.) Сумленных навукоўцаў, што маюць адвагу казаць праўду, рэжым перасьледуе, кідае за краты.

Таму сёньня мы, беларусы Амэрыкі, выйшлі на гэты мітынг, каб падтрымаць нашых братоў і сёстраў на Бацькаўшчыне, што пакутуюць вось ужо столькі гадоў ад наступстваў Чарнобыльскай аварыі. Мы заяўляем аб нашай салідарнасьці зь імі.

*Працяг на бачыне 7*

## Мітынг да ўгодкаў аварыі ў Чарнобылі




Перад будынкам штаб-кватэры Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў на Першай Авэню ў Нью Ёрку 26 красавіка адбыўся мітынг, ладжаны Нью Ёрскім аддзелам Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня. У ім узяло ўдзел каля ста прадстаўнікоў беларускай грамады Амэрыкі, і былі прысутныя таксама прадстаўнікі гэбрайскай грамады паходжаньнем зь Беларусі.

Напачатку мітынгу старшыня аддзелу сп. Віталь Зайка зьвярнуўся да прысутных з словам пра гадавіну Чарнобыля і пра дзеяньні рэжыму Лукашэнкі, што пагаршаюць і без таго цяжкое становішча пацярпелых ад Чарнобылю. Здароўе 1,8 мільёнаў людзей, што дагэтуль жывуць на забруджанай зямлі, пагаршаецца. Расьце колькасьць анкалягічных захворваньняў, вялізная колькасьць дзяцей маюць павялічаную шчытападобную залозу і паніжаны ўзровень гэмаглябіну ў крыві.

Рэжым-жа Лукашэнкі ўсяк заніжае небясьпеку радыяцыйнага забруджаньня, адвольна абвяшчае паселішчы ў пацярпелых раёнах «радыяцыйна чыстымі», спыняе дапамогу. Чарговыя слуханьні ў кішэнным лукашэнскім «парляманце» па Чарнобыльскай праблеме пераносяцца дзеля абмеркаваньня «больш надзённага» пытаньня — абмеркаваньня мерапрыемстваў па адзначэньні 20-годзьдзя Чарнобылю. Лукашэнка штогод на гадавіну Чарнобыля робіць прапагандысцкія ваяжы на пацярпелыя землі Гомельшчыны й Магілёўшчыны, падчас якіх гучаць заявы кшталту: "у вас тут узровень радыяцыі ніжэй чым у сталіцы!" Рэжым працягвае стымуляваць сельгасвытворчасьць на радыяцыйна небясьпечнай глебе, не забясьпечвае чыстымі прадуктамі харчаваньня і чыстай вадой. Не забясьпечваюцца належным чынам мэдыцынскія патрэбы пацярпелых, у тым ліку эвакуяваных на чыстыя землі. Ідзе перасьлед сумленных навукоўцаў, што насьмельваюцца крытыкаваць палітыку рэжыму ў дачыненьні да забруджаных тэрыторыяў. Замоўчваецца сапраўдная інфармацыя пра ўплыў радыяцыі на стан здароўя насельніцтва.

Разам з тым рэжым фактычна спыніў паступленьне гуманітарнай дапамогі для пацярпелых з-за мяжы й стварыў умовы, у якіх немагчыма ажыцьцяўляць праекты па вывазе дзяцей з пацярпелых абшараў на аздараўленьне за мяжу, у якім аказвалі дапамогу шматлікія людзі й арганізацыі з усяго сьвету.

Між тым мэдыкамэнты й абсталяваньне з-за мяжы аказалі вялікую дапамогу беларускім людзям. Прамоўца таксама адзначыў ролю Старшыні Рады БНР спн. Івонкі Сурвіллы ў стварэньні структураў ў Канадзе для аказаньня эфэктыўнай дапамогі, у тым ліку збору сродкаў для пацярпелых ад Чарнобыля.

Затым да прысутных зьвярнуўся сп. Зянон Пазьняк. Ён адзначыў сувязь Чарнобылю радыяцыйнага з Чарнобылем маральным у выглядзе рэжыму Лукашэнкі. Абодва Чарнобылі працягваюць сваё злавеснае дзеяньне на целы й душы людзей, і невыпадкова рэжым фактычна спрыяе выміраньню людзей, заяўляючы пра бясьпеку пражываньня на забруджаных тэрыторыях і падтрымліваючы там вытворчасьць харчаваньня. Душы зьнішчаныя — зьнішчаюцца і целы.

Прысутныя выказалі сваю салідарнасьць з ахвярамі Чарнобыля, і свой пратэст супраць дзеяньняў рэжыму Лукашэнкі. Луналі бел-чырвона-белыя сьцягі, на плякатах можна было прачытаць: "Беларусь мае дзьве бяды—Лукашэнку і Чарнобыль", "У Беларусі ад радыяцыі паміраюць людзі з-за абыякавасьці рэжыму Лукашэнкі", "Далоў рэжым Лукашэнкі!". Прысутныя скандавалі лёзунгі: «Жыве Беларусь!", "Далоў Лукашэнку!", "Беларусь—ТАК!, Лукашэнка—НЕ!", распаўсюджвалі ўлёткі мінакам. Мітынг быў прадоўжаны на Трэцяй Авэню ля будынку, у якім месьціцца консулят Беларусі ў Нью Ёрку.

**Віталь ЗАЙКА**

# Двох у адной лодцы



За апошнія месяцы ў палітычным жыцьці на ўсходзе Эўропы пачалася актывізацыя пэўных працэсаў, якія вымагаюць камэнтару.

Восеньню мінулага году адбылося некалькі падзеяў, якія пахіснулі становішча Пуціна на вяршыні расейскай улады. Першая падзея – гэта правал крывавай гэбоўскай правакацыі ў Беслане. Бадай што ўпершыню на Захадзе тыя, што здольныя бачыць, убачылі, наколькі-ж крывавы й жудасны ёсьць існуючы ў Расеі рэжым. Здаецца, ужо тады ў асяродзьдзі ценявой улады Расеі мільганулі думкі пра замену Пуціна. Магчыма, Пуцін гэта адчуў і спадзяваўся адыграцца на Ўкраіне. Але тут адбыўся поўны палітычны разгром расейскай палітыкі. І Пуцін зразумеў (гэта відаць), што трэба ратавацца.

Тут я зраблю, аднак, дэгрэсію, каб нагадаць, што такое Пуцін.

Гэта нікому не вядомая раней асоба ўзьнікла як бы зь "ніадкуль" і за вельмі кароткі час стала прэзыдэнтам імпэрскай дзяржавы. У палітыцы такія "казачкі" з палітычнага небыцьця зьяўляюцца толькі тады, калі іх рухае вельмі моцная ўладная калектыўная сіла дзеля выкарыстаньня (ці ўмацаваньня) сваіх пазыцыяў ва ўладзе. Самыя па сабе (гэта значыць – натуральна) такія зьявы ў палітыцы практычна не існуюць.

Ельцын, якога ў 1991 годзе (ў час гэбоўскага путчу), і асабліва ў 1993 годзе (у час так званага "хасбулатаўскага рэваншызму"), падтрымалі палкоўнікі КГБ, трапіў пад поўны кантроль службаў бясьпекі. На працягу наступных шасьці гадоў ельцыншчыны савецкі КГБ структураваўся, падабраў пад сябе ключавыя пазыцыі жыцьцёва важных сфэраў Расеі (асабліва ва ўладзе) і ў 1999 годзе прапанаваў свайго невядамага грамадзтву стаўленьніка (Пуціна) на прэм'ер-міністра ўраду. Задача яго была – зноў пачаць вайну ў Чачэніі. Усё гэта ён зрабіў, і ў самым канцы 1999 году КГБ змусіў Ельцына адмовіцца ад пасады прэзыдэнта. Дарога для абсалютнай улады гэбізму ў Расеі была адчыненая. Праз некалькі месяцаў Пуціна робяць прэзыдэнтам. Цяпер уся яўная і тайная дзяржаўная машына Расеі працавала на ягоны імідж. (Пакідаю без разгляду, хто стаіць у цяні, за плячыма Пуціна. Я пра гэта ўжо пісаў.)

І вось "стаўка" на Пуціна пачала даваць збоі.

З гэтага часу Пуцін і найбліжэйшая група, што склалася вакол яго, пачалі ратавацца. Яны адчулі, што могуць пайсьці з улады гэтак-жа, як і прыйшлі, саступіўшы дарогу сьвежым людзям з КГБ. Трэба ведаць Расею, каб гэта разумець.

Задача ўтрымацца для Пуціна і яго групоўкі – гэта задача ўтрымаць Беларусь у сфэры свайго ўплыву. Рэвалюцыя ў Беларусі ў бліжэйшым часе абазначала-б крах пуціншчыны ў Расеі й перамены ў крамлёўскай уладзе.

Ужо 25 студзеня сёлета старшыня Дзяржаўнай Думы Расеі прафэсыйны гэбіст генэрал-маёр Барыс Грызлоў падчас ягонай сустрэчы з дэлегацыяй лукашэнкаўскай "палаткі", якая прыехала ў Маскву на чале са старшынём "палаты" У. Канаплёвым (калегам Грызлова па "фаху") заявіў, што "Расея і Беларусь прымуць канстытуцыйны акт і падпішуць саюзную дамову ўжо сёлета".

Тут-жа ў студзені група "дэпутатаў" так званага "парляманцкага сходу" Беларусі й Расеі зьвярнулася да Пуціна і Лукашэнкі з просьбаю правесьці іхнюю асабістую сустрэчу як мага раней, каб ведаць арыентыры, як далей распрацоўваць справу з "канстытуцыйным актам". Крэмль яшчэ больш умацаваўся ў гатовасьці трымацца за Лукашэнку.

На сітуацыю пачаў рэагаваць Эўрапарлямант. 10 сакавіка ён ухваліў рэзалюцыю па Беларусі, дзе ўпершыню назваў лукашэнкаўскі рэжым дыктатурай.

18 сакавіка, выступаючы перад удзельнікамі нарады міністраў замежных справаў краінаў так званага СНД, Лукашэнка крытыкуе азначэньне Эўрапарляманту аб дыктатуры й заяўляе, што Беларусь ніколі не адчувала такой, як зараз, падтрымкі з боку Расеі за ўсю гісторыю адносінаў. "Мы ніколі не адыйдзем ад той палітыкі, якой прытрымліваемся ўжо 10 гадоў", – сказаў ён. Тут-жа кіраўнік МЗС Расеі С. Лаўроў паведаміў, што Пуцін разьлічвае на хуткую сустрэчу з Лукашэнкам.

Праз два тыдні (у пачатку красавіка) яны ўжо спаткаліся ў Сочы. Пуцін быў ласкавы і патульны. Відаць, нечакана для сябе, абодва стаўленьнікі апынуліся як-бы ў адной лодцы. Кожны хоча ўратавацца за кошт другога і прапаноўвае веславаць разам.

13 красавіка ў "Москаў-Таймс" зьявіўся артыкул нейкага Паула Фельгенгаўэра, які зь відам адкрывальніка сакрэтаў (Палішынэля) знайшоў сякераў пад лавай і напісаў, што Пуцін і Лукашэнка дамовіліся ў Сочы аб аб'яднаньні Расеі й Беларусі ў адную дзяржаву і хочуць праз год правесьці рэфэрэндум.

Усё гэта вядома даўно і без падстаўных рупараў "Москаў-Таймс". Яшчэ з часоў Ельцына точыцца гэтая генэральная стратэгія расейскага гэбэ адносна Беларусі. Стаўленьнікі згодны аб'яднаць хоць Беларусь з Расеяй, хоць Зямлю з Марсам. Усё пытаньне толькі ў тым, хто будзе галоўным, хто стане кіраваць гэтым "Зямлямарсам". Як толькі яны дамовяцца – авантура з аб'яднаньнем гарантаваная. Аднак, няма яшчэ гарантыі, што яна ўдасца. Бо як-бы яны не перакуліліся разам.

Тым ня менш імпэрскі авантурызм зноў набірае абароты. Стаўка робіцца на зьнішчэньне беларускіх грошай і ўвядзеньне расейскіх і на навязваньне так званага "канстытуцыйнага акту". Агентура (асабліва ў журналістыцы) зноў пускае дымавыя заслоны, маўляў, не зважайце, усё гэта несур'ёзна, нічога ня будзе, гэта толькі гаворкі, "піярныя формулы" і г. д.

22 красавіка Лукашэнка і Пуцін зноў спатыкаліся ў Маскве, падпісалі дакумант аб забесьпячэньні "роўных" правоў грамадзянаў абедзьвюх краінаў (з прыцэлам на рэфэрэндумную авантуру), пасьля чаго Лукашэнка ў чарговы раз паведаміў, што пераход на расейскія грошы будзе разглядацца ў кантэксьце прыняцьця так званага "канстытуцыйнага акту". Гэтую хвалю зноў будуць уздымаць. Пуцін і Лукашэнка зацьвердзілі новы склад камісіі па падрыхтоўцы так званага "канстытуцыйнага акту" і прызначылі новых кіраўнікоў – Б. Грызлова і У. Канаплёва.

Тым часам на сытуацыю двух у адной лодцы (ня лічачы сабакі) пачала рэагаваць Амэрыка.

Спосабам для дэманстрацыі пазыцыі перад Масквою напярэдадні сустрэчы прэзыдэнта Буша з Пуціным і перад самітам "Расея-Эўразьвяз" было абранае спатканьне ў Вільні Кандалізы Райс з так званай беларускай "апазыцыяй".

У Вільню прывезьлі сем другарадных асобаў, якія ў падстаўной "апазыцыі" не іграюць ніякай ролі (не кажу ўжо пра тое, што ў жыцьці ніхто зь іх не размаўляе па-беларуску). Прысутнічаў, дарэчы, у якасьці "апазыцыянэра" вядомы прафэсыянал зь вядомай канторы Анатоль Міхайлаў (апошнім часам быў рэктарам ЭГУ). Тым ня менш "сустрэча" дазволіла сказаць Кандалізе Райс усе неабходныя фразы аб асуджэньні дыктатуры ў Беларусі й аб неабходнасьці яе ліквідацыі.

У гэты-ж дзень, 21 красавіка, у Вільні дэлегацыі Расеі й НАТО падпісалі пагадненьне аб вайсковым супрацоўніцтве, пасьля чаго міністар замежных справаў Расеі С. Лаўроў заявіў журналістам, што Масква адкідае заклікі ЗША і Эўразьвязу аб дэмакратызацыі і палітычных зьменах у Беларусі.

Падзеі й палітычныя руханьні, пра якія я тут распавядаў, паказваюць, што Захад пасьля здарэньняў у Беслане і на Украіне перастае рабіць выгляд, што Расея ідзе па шляху дэмакратыі й адмаўляецца нават у дачыненьні да Расеі ад дэмакратычнай тэрміналёгіі.

Мне падаецца, што Амэрыка зразумела залежнасьць і безвыходнасьць Пуціна ў дачыненьні да Лукашэнкі. Пуцін падтрымае рэжым Лукашэнкі пры любым раскладзе, тым больш на выбарах, бо ад гэтага залежыць ягоная пуцінская пэрспэктыва і прысутнасьць ва ўладзе. Амэрыка імкнецца націснуць на Пуціна, каб той узяў іншы мадэль дачыненьняў з рэжымам Лукашэнкі. Але справа марная.

Тым часам калі Масква здолее, напрыклад, захаваць рэжым Лукашэнкі ў Беларусі, то пэрспэктыва для Пуціна складзецца таксама не карысная. Бо палітычная ініцыятыва тады пяройдзе да Лукашэнкі.

Улада, якая існуе ў Маскве, яе псыхалёгія і дэфэктыўны вопыт ня здатныя ні на якія варыянтнасьці ці вольныя рашэньні, акрамя аднаго спосабу палітычных паводзінаў: не пушчаць, не даваць, душыць і "мачыць", як кажуць гэтыя знаўцы крымінальнай лексікі ва ўладзе.

Мы, беларусы, павінны гэта заўсёды памятаць і быць гатовымі да адпаведных (і адэкватных) дзеяньняў.

**Зянон ПАЗЬНЯК**

# Імпрэза ў Нью Ёркаўскай Публічнай Бібліятэцы

У Нью Ёрку 16 красавіка пачаўся фэстываль сусьветнае літаратуры, зарганізаваны Амэрыканскім ПЭН Цэнтрам. Сустрэчы першага дня адбываліся ў сьценах бібліятэкі; адна з імпрэзаў насіла назву "Confronting the Worst: Writing and Catastrophe". На яе былі запрошаныя Fransois Bizot, Carolin Emcke, Philip Gourevitch, Ryszard Kapuscinski, Elena Poniatowska, а таксама Сьвятлана Алексіевіч.

Распачаў сустрэчу прэзыдэнт ПЭН Цэнтру Салман Рушды. У модным для гэтай лібэральнай арганізацыі стылю пажартаваўшы пра сучасную адміністрацыю ЗША, асобна – пра Буша, і выказаўшы надзею, што з гэтым фэстывалем у горад вернецца Літаратура, ён перадаў слова гасьцям.

Першай выступала С. Алексіевіч ("пісьменьніца, народжаная на Ўкраіне, жыве ў Менску", было сказана пра яе), якая прамаўляла па-расейску й мела перакладчыка. Свой выступ яна назвала "Аповед пра катастрофу ці катастрофа аповеду". Спн. Алексіевіч расказвала пра ўласны вопыт збору матар'ялу, пра адрозьненьне інфармацыі пра Чарнобыль ад сапраўднага Чарнобыльскага жаху, які адзін чалавек перадаць ці намаляваць ня ў стане. Згадваючы "вялікіх рускіх пісьменьнікаў Чэхава, Дастаеўскага", яна казала, што сёньня ніхто ня зможа самастойна напісаць Кнігу, што гэтая праца – калектыўная: нехта мае ў сабе старонку, нехта абзац, нехта толькі два сказы. Складзеныя разам, яны і ўтвораць Кнігу. "Мае кнігі ляжаць на вуліцы. Я – пісьменьніца вуха". "Размовы, - працягвала яна, - вельмі важная частка нашай рускай культуры. Мы ня проста абменьваемся інфармацыяй, мы разважаем пра таямніцы жыцьця".

Карціны таго жаху, што малявала пісьменьніца, выклікалі ў слухачоў шокавую рэакцыю; выглядала, што за прамінулыя 19 гадоў амэрыканцы не зусім адэкватна склалі сабе ўяўленьне пра відарысы катастрофы.

Слова "Беларусь" у выступе пісьменьніцы прагучала аднойчы – як пра самую патрыярхальную краіну былога СССР, што ў выніку Чарнобыля апынулася наперадзе ўсёй плянэты.

Цікавымі былі выступы й іншых пісьменьнікаў. Ф. Біжо: "Мы чамусьці заўсёды сябе атаесамляем толькі з ахвяраю. А мусім атаесамляць і з катам". Ф. Гурэвіч: "Яны [героі дакумэнтальных аповядаў, сьведкі катастрофаў] хочуць быць запісанымі, каб застацца, каб выжыць". К. Эмкэ: "Сьведкі ніколі не прасілі маёй дапамогі, ані грошы, ані вопраткі, ані ежы. Яны не прасілі дапамагчы ім выехаць з гэтага месца ці нешта папрасіць для іх ва ўрада. Яны толькі пыталі: ты запішаш гэта? Ты насамрэч гэта надрукуеш?". Ф. Гурэвіч: "Падобнымі запісамі мы ня зробім сьвет лепшым. Але як ня будзем запісваць – мы дазволім гэтаму сьвету быць горшым".

Сустрэча, на якую сабралася 170 чалавек (невялічкая заля была паўнюткаю); ішла цягам дзьвюх гадзінаў і толькі патрэба рыхтавацца да наступнай вечарыны прымусіла разыйсьціся. Сышлі пісьменьнікі, сышлі слухачы. Сышла Сьвятлана Алексіевіч, панесла з сабою падораныя БІНІМаўскія выданьні, якія ёй, як чалавеку з чуйным вухам, мо' дапамогуць пачуць яшчэ адну гісторыю. Беларускую.

**Ю.**

# Антыбеларуская дзейнасьць прыхільнікаў Лукашэнкі

Ужо на працягу пэўнага часу вакол катэдральнага сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне назіраецца дэструктыўная дзейнасьць групы асобаў, якая праз разнастайныя несумленныя захады імкнецца прыйсьці да кіраваньня парафіяльнаю радаю сабору і да кіраваньня Беларускаю Аўтакефальнаю Праваслаўнаю Царквою (БАПЦ). Пры гэтым прадстаўнікі гэтай групы ўсяляк зьневажаюць і абражаюць беларускамоўных парафіянаў сабору, прыцягваюць сабе ў дапамогу і запрашаюць зрабіцца парафіянамі выпадковых асобаў, што ня маюць дачыненьня ані да Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, ані да Беларусі наагул.

Між тым БАПЦ была створаная дзеля задавальненьня патрэбаў менавіта беларускамоўных вернікаў, аб чым сьведчаць традыцыі, статут і адпаведная дакументацыя БАПЦ. На парадак дня штучна высоўваюцца такія нечуваныя і ганебныя рэчы, як скасаваньне слова “Аўтакефальная” у назве Царквы, увядзеньне казаняў па-расейску. Робіцца спробы пазбыцца беларускіх нацыянальных сымболяў — сьвятар Ігар Якунін “бласлаўляе” вынас з прыцаркоўнай залі гэрбу Пагоня, падымаецца пытаньне аб замене нацыянальнага беларускага сьцягу на сьцяг рэжыму Лукашэнкі. Дарэчы, выказваньні й публікацыі сябраў групы маюць моцную антыамэрыканскую і антызаходнюю, прарасейскую накіраванасьць. Навідавоку імкненьне зьдзейсьніць паўзучую русыфікацыю і дэмаралізацыю БАПЦ. Гэткія дзеяньні ёсьць цынічным зьдзекам над ахвярнасьцю і адданай працай некалькіх пакаленьняў беларусаў, якія сваім мазалём і шчыраю вераю ў Бога здабылі сабе нацыянальную царкву, збудавалі свае сьвятыні й адстаялі права зьвяртацца да Бога ў сваёй роднай мове. Гэтае права зьвяртацца да Бога па-беларуску адвеку ставілася пад пытаньне рознымі варожымі Беларусі сіламі. І вось цяпер тая ганебная зьява зноў падымае галаву, гэтым разам у дэмакратычнай краіне, што дала прытулак як беларусам-працаўнікам, так і прайдзісьветам, якія імкнуцца злоўжыць даверам і патаптаць плён намаганьняў сотняў сумленных людзей.

Паралельна з падрыхтоўкаю закалоту ў царкве ідзе спроба расхістаць беларускія грамадзкія арганізацыі. Прасочваецца актыўнасьць у кантактах з афіцыйнымі прадстаўнікамі рэжыму Лукашэнкі ў ЗША, робіцца спроба ўсчаць кшталт інфармацыйнай вайны, скіраванай на падтрымку палітыкі Лукашэнкі. Высьвечаны на япіскапа сп. Віктар Касьцюк (уладыка Васіль), які з дапамогаю сп. Чудзіна дэзынфармаваў Царкоўную Раду і Кансысторыю БАПЦ і прыхаваў да пары свае прарасейскія пагляды й прыхільнасьць да Расейскай Праваслаўнай Царквы (РПЦ), выдаліў з парафіяльнай рады пад надуманым прэтэкстам сьведамых беларусаў. Цяпер у Беларусі ён, нібы ад імя БАПЦ, спрабуе падпарадкаваць сабе сьвятароў і парафіянаў Беларускай Аўтакефальнай (Народнай) Праваслаўнай Царквы, з тым, каб улучыць іх у склад РПЦ. Вядома, што РПЦ бласлаўляе ўсе дзеяньні рэжыму Лукашэнкі, і знаходзіцца ў канкардаце зь ім, што насуперак Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь робіць РПЦ дзяржаўнаю царквою. Гэтым самым кожны дабраахвотны кантакт асобаў са структурамі рэжыму і РПЦ дыскваліфікуе гэтых асобаў для працягу выканьня функцыяў і знаходжаньня на пасадах у БАПЦ.

Калі прааналізаваць дзейнасьць антыбеларускай і антыцаркоўнай групоўкі, асобныя факты складаюцца ў агульную тэндэнцыю, скіраваную на зьнішчэньне БАПЦ або падпарадкаваньне яе Расейскай Праваслаўнай Царкве Маскоўскага Патрыярхату — адвечнага ворага беларускай духовасьці, незалежнасьці й свабоды. Таксама робіцца спроба дэзынфармаваць грамадзкасьць адносна палітыкі рэжыму Лукашэнкі, стварыць падставу для ўтварэньня пралукашэнкаўскіх структураў у беларускай дыяспары, аслабіць і раскалоць яе па ўзоры, што выпрабаваны ў Латвіі, Чэхіі ды іншых краінах.

На гэта паказваюць як дзеяньні групоўкі, так і асобы яе сяброў. За ўсім плянам стаіць асоба кіраўніка і натхняльніка родам з Расеі — Юрыя Чудзіна, які вывучыў беларускую мову і ўвайшоў у давер да нацыянальных беларускіх дзеячоў у Беларусі й у ЗША. Сп. Чудзін скрозь карыстаецца псэўдонімам (“Васілеўскі”) замест сапраўднага прозьвішча. Маючы немалыя інтэлектуальныя, а таксама маніпуляцыйныя здольнасьці, перабыўшы па чарзе каталіком, вуніятам і нарэшце зрабіўшыся праваслаўным, сп. Чудзін (“Васілеўскі”) у патрэбны момант стаў рэнегатам і цынічна выракся беларускай справы, якую ён на словах палка падтрымліваў.



Ягоным стараньнем Царква прыдбала сьвятароў, якія замест зьдзяйсьненьня душпастырства і распаўсюду хрысьціянскай любові сеюць закалот і варажнечу. Ён усяляк узносіць дыктатара Лукашэнку і ягоныя “дасягненьні”, пагарджае ўсім нацыянальна беларускім. Увеўшы ў зман сп. Расьціслава Гарошку, выдаўца газэты “Беларускі Час” (фактычна штодвухгадовіка), сп. Чудзін у апошнім, пятым, нумары газэты пачаў адкрыта распаўсюджваць свае антыбеларускія погляды, якія ён даваў раней у завуаляваным выглядзе. Перад выхадам апошняга нумару газэты Чудзін заявіў сп. Гарошку, што амбасада Беларусі дае грошы на “выданьні”. Гэты нумар быў выдадзены бязь ведама і без удзелу выдаўца. У гэтым нумары маскі зьнятыя. Амаль палова плошчы нумару выйшла па-расейску, з махровай апалегіяй рэжыму Лукашэнкі, з матар'яламі афіцыйных прадстаўнікоў рэжыму і лукашэнкаўскім сьцягам. Робіцца заклік падтрымаць мэгаламаніякальны плян “зьбіраньня расейскіх земляў” з цэнтрам у Менску і пад кіраўніцтвам Лукашэнкі. Пры гэтым у “шапцы” выданьня цынічна, з мэтай увесьці ў зман, пакінутая выява “Пагоні”. Завяршае нумар пусты зубаскальны артыкул пра стан беларускай царквы ў Дораты, Нью Джэрзі. Дарэчы, гэты нумар газэты, пад фактычна скрадзенай у выдаўца назваю, ужо фігуруе на падрыхтаванай рэжымам Лукашэнкі “выставе сродкаў масавай інфармацыі беларускіх дыяспараў” у Менску, дзе прадстаўленыя пралукашэнкаўскія кішэнныя арганізацыі Расеі, Малдовы, Латвіі.

Усё вышэйсказанае выклікае шэраг пытаньняў.

Наколькі прымальнае сяброўства ў кіраўнічых структурах БАПЦ людзей, якія імкнуцца аслабіць і зьнішчыць гэтую Царкву?

Як могуць людзі, што лічаць сябе беларусамі, дазваляць злоўжываць сваім імём і аўтарытэтам у сумніўных антыбеларускіх і антыцаркоўных прадпрыймальнях?

Колькі яшчэ часу беларуская грамадзкасьць будзе цярпець у сваіх шэрагах дэструктыўную дзейнасьць антыбеларускай і антыцаркоўнай групы?

***Беларускія вернікі***

# Ад выдаўца газэты “Беларускі час”

Газэта “Беларускі час” (Belarusian Times), выдаўцом якое ад пачатку ейнага існаваньня, працягам больш 30-ці гадоў, быў і надалей застаюся я, заўсёды й ва ўсе часы была выказьнікам беларускіх патрыятычных поглядаў і незалежніцкіх імкненьняў.

Як і ўсе эміграцыйныя беларускія арганізацыі, так і выдавецкія пачынаньні газэты “Беларускі Час” у выніку адыходу пасьляваеннага пакаленьня беларускай эміграцыі дазнала ў мінулым дзесяцігодзьдзі шмат цяжкасьцяў з камплектаваньнем складу рэдакцыі й знаходжаньнем матар'ялаў для публікацыяў.

Таму пару гадоў таму я без засьцярогаў прыняў ахвоту сп. Юрага Васілеўскага, што тады выказваўся як гарачы патрыёт і шчыры незалежнік, узяць на сябе працу і адказнасьць рэдактара газэты.

Мой давер да сп. Васілеўскага падмацаваў яшчэ й а. Ігар Якунін, што таксама ў той час выдаваў сябе за гарачага аўтакефаліста і палкага беларускага патрыёта. Ён ня толькі ўвайшоў у склад рэдакцыйнай калегіі, але і пагадзіўся макетаваць газэту на кампутары.

Нажаль, ні новы рэдактар, ні створаная ім рэдакцыйная калегія пэрыядычнасьці газэты не ўзнавілі, а пачалі выдаваць паасобныя нумары зь вялікімі перапынкамі ды, з мала заўважнымі на першы погляд, адхіленьнямі ад кірунку беларускага нацыянальна-патрыятычнага руху.

Заняты асноўнаю працаю, я з жалем мушу прызнацца, што не зьвярнуў належнае ўвагі на тое, што сп. Васілеўскі з а. Якуніным, відаць, палічылі за маю згоду, ці выкарысталі нагоду для зьмены палітычнага кірунку газэты, ды без майго ведама зладжылі ды надрукавалі №5 (64) “Беларускага Часу” зь зьместам цалкам супярэчным папярэдне выказаным газэтаю поглядам і маім перакананьням.

У апошнім нумары прапагандаваўся здрадніцкі ў дачыненьні да ідэі беларускай незалежнасьці заклік да інтэграцыі Беларусі з Расеяй, былі перадрукаваныя матар'ялы лукашэнкаўскай прапаганды пад лукашэнкаўскім сьцягам, выказваўся востры антыамэрыканізм і нянавісьць да Захаду ды ўпершыню на бачынах газэты ў значнай меры была ўжытая расейская мова. Усё гэта выяўляе варожасьць сп. Ю. Васілеўскага і ягоных рэдакцыйных супрацоўнікаў да беларускіх нацыянальных ідэяў і памкненьняў ды да краіны, якая дае гасьцінны прытулак нашай эміграцыі – Злучаных Штатаў Амэрыкі.

Разам з гэтым зьмест газэты паказвае і на крыніцу натхненьня рэдактара і ягоных супрацоўнікаў ды магчымае іхняе падтрымкі.

З увагі на вышэйсказанае, я гэтым яшчэ раз заяўляю, што зьместу №5 (64) газэты “Беларускі Час” перад яе публікацыяй ня бачыў, на публікацыю згоды не даваў, за друк не плаціў і плаціць ня буду.

Да гэтага за ашуканства здымаю з пасады рэдактара газэты “Беларускі Час” сп. Юрага Васілеўскага, сапраўднае прозьвішча якога, як я толькі даведаўся, Чудзін, а таксама звальняю ўсіх супрацоўнікаў рэдакцыйнай калегіі ды забараняю ім якім колечы чынам выкарыстоўваць добрае імя газэты на іхныя нягодныя мэты.

Разам з гэтым перапрашаю беларускі незалежніцкі актыў і ўсё беларускае грамадзтва за дапушчаныя праз маю неасьцярожнасьць шкоду і запэўніваю, што газэта “Беларускі Час” ня будзе выкарыстоўвацца ворагамі Беларусі й Амэрыкі.

***Расьціслаў ГАРОШКА,***
***Выдавец і ўласьнік газэты “Беларускі Час”***

# Фальшывае грамадзянства

Апошнім часам у інтэрнэце зьявіліся аб'явы, дзе нехта прапануе набыцьцё грамадзянства Беларускай Народнай Рэспублікі, быццам-бы са згоды Рады БНР. Такую аб'яву, напрыклад, пакінуў у шмат якіх беларускіх гасьцявых кнігах і форумах чалавек, які падпісваецца імём Міхась Вашкевіч (варыянт Міхаіл Вашкевіч). Вашкевіч паведамляе, што піша з Баўгарыі, што пацьвярджаецца ягоным IP-адрасам. Паводле ягоных слоў, ён прадстаўляе так званы «Камітэт за свабодную, дэмакратычную і незалежную Беларусь» у Баўгарыі. Прапануюцца адрасы ***www.ksdnb.data.bg*** (старонкі не існуе) і ***www.fdb-b1.narod.ru*** (непрафэсійна зроблены сайт з мінімумам інфармацыі на расейскай і баўгарскай мовах і мноствам спасылак). Ніякой інфармацыі пра гэты камітэт больш нідзе знайсьці не ўдалося.

Паведамленьні Вашкевіча звычайна напісаныя па-расейску, або па-беларуску, расейскімі літарамі. У абодвух выпадках гэта характэрызуецца вялікай колькасьцю артаграфічных памылак.

Што тычыцца грамадзянства БНР, то карыстальнікам прапануецца запоўніць анкету, дзе акрамя ўсяго належыць падаць свой хатні адрас, тэлефон, нацыянальнасьць і нават упісаць сваіх дзяцей, і адаслаць яе на адрас ***k_sdnb@abv.bg***

Рада БНР, у той-жа час, афіцыйна паведаміла, што грамадзянства БНР нікому не выдаецца, бо яго; па-просту, не існуе. І ўжо тым болей ніякіх пасярэдніцкіх функцыяў Рада нікому не давала. Застаецца толькі гадаць, зь якою мэтаю нехта намагаецца сабраць чыюсьці асабістую інфармацыю. Наогул, усе павінны ведаць, што калі яны сустрэнуць або атрымаюць па электроннай пошце прапанову атрымаць грамадзянства БНР, то перад тым, як дасылаць свае дадзеныя на незнаёмы адрас, спачатку варта крыху падумаць.

***Ю. М.***

# Беларусь за месяц

## Угодкі Чарнобыля

Сёлета традыцыйны "Чарнобыльскі шлях" у Менску не праводзілі. Яго выршылі замяніць сходам ля будынка Адміністрацыі прэзыдэнта. Прадугледжвалася, што тыя, хто зьбярэцца на акцыю, апусьцяць у скрынку для зваротаў грамадзянаў адкрыты ліст да прэзыдэнта з наступнымі патрабаваньнямі: адсяліць людзей з забруджаных рэгіёнаў (15 і болей кюры / кв. км), забясьпечыць інвалідаў Чарнобыля лекамі й лячэньнем, адмяніць абмежаваньні на гуманітарную дапамогу чарнобыльцам і выезд дзяцей на аздараўленьне, а таксама спыніць прымусовае разьмеркаваньне ў чарнобыльскія рэгіёны.

Аднак міліцыя зрабіла прэвэнтыўныя захады. На перакрыжаваньні вуліц Энгельса і Маркса сабралася каля 150 чалавек, АМАП не пусьціў іх да рэзыдэнцыі. Таму маніфэстанты вырашылі скласьці пэтыцыю з аналягічнымі патрабаваньнямі й перадаць у Адміністрацыю. А потым пачалася традыцыйная зачыстка. Былі затрыманыя 40 чалавек, у тым ліку прадстаўнікі расейскага руху "Якія ідуць бяз



Пуціна", моладзевага крыла расейскага "Саюзу правых сілаў", а таксама ўкраінскай арганізацыі "Нацыянальны альянс". Каля рэстарану "Печкі-лавачкі" на праспэкце Скарыны былі жорстка зьбіты дзесяць чалавек.

На наступны дзень прайшлі суды. Кіраўнік "Маладога Фронту" Зьміцер Дашкевіч быў асуджаны на 12 сутак, кіраўнік руху "Якія ідуць бяз Пуціна" Вадзім Рэзвы — 10 сутак, актывіст "МФ" Сяржук Лісічонак — на дзесяць сутак. Старшыня менскай суполкі Аб'яднанай грамадзянскай партыі Марына Багдановіч атрымала 150 базавых велічыняў штрафу (3,825 млн. руб, ці $1780), чатырнаццаць грамадзянаў Расеі й шэсьць Украіны атрымалі па некалькі сутак арышту.

Увечары, 26 красавіка, каля Чарнобыльскай капліцы на вуліцы Карастаянавай у Менску прайшоў санкцыянаваны мітынг, у якім узялі ўдзел каля 200 чалавек. У гэты-ж дзень у Курапатах правялі жалобныя мерапрыемствы сябры Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі — БНФ. Яны падавалі заяўку на сход у сквэры Янкі Купалы, аднак Менгарвыканкам адмовіў.

## Справа Чаркасавай

Менская гарадзкая пракуратура спыніла крымінальны пераслед Антона Філімонава, сына забітай паўгода таму журналісткі газэты "Салідарнасьць" Веранікі Чаркасавай і яе айчыма Ўладзімера Мялешкі з прычыны "адсутнасьці ў іх дзеяньнях складу злачынства", бо не было здабыта, як гаворыцца ў дакумэнце, дастаткова доказаў датычнасьці А. Філімонава і Ў. Мялешкі да ўчыненьня злачынства, а "ўсе магчымасьці для збору дадатковых доказаў былі вычарпаныя". В. Чаркасава была забіта 20 кастрычніка 2004 году ў сваёй кватэры, яе знайшлі з мноствам нажавых ранаў.

## НІСЭПД закрылі

15 красавіка Вярхоўны суд Беларусі ліквідаваў Рэспубліканскае грамадзкае аб'яднаньне "Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных дасьледаваньняў". Пазоў аб ліквідацыі падало Міністэрства юстыцыі.

Падставаю для падачы пазову стаў шэраг прэтэнзіяў, выказаных Мінюстам: праблемы з юрыдычным адрасам, непрадастаўленьне міністэрству адпаведных дакумэнтаў, выкарыстаньні (у тым ліку ў СМІ) няпоўнай назвы арганізацыі (НІСЭПД, замест РГА НІСЭПД), а таксама наяўнасьць назіральнай рады, якую Мінюст палічыў кіруючым органам, што не прадугледжана статутам.

Праблемы ў НІСЭПД узьніклі паўгода таму, калі інстытут па выніках рэфэрэндуму 17 кастрычніка 2004 году абнародаваў дадзеныя апытаньняў выбарцаў па выхадзе з кабінак для галасаваньня (экзыт-пол), атрыманыя сумесна з Балтыйскай службай Інстытута Гэлапа.

Так, паводле зьвестак Цэнтральнай выбарчай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзеньні рэспубліканскіх рэфэрэндумаў, удзел у выбарах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў і плебісцыце ўзялі 89,73 адсоткаў выбарцаў. За зьмену Канстытуцыі выказаліся 77,3 адсоткаў, унесеных у сьпісы для галасаваньня. Паводле НІСЭПД і Інстытуту Гэлапа "так" Лукашэнку выказала 48,4 адсоткаў выбаршчыкаў. То бок меней за палову.

Напярэдадні свайго закрыцьця кіраўніцтва НІСЭПД правяло чарговы брыфінг, на якім абнародавала вынікі сакавіцкага апытаньня грамадзкай думкі. Паводле яго вынікаў, 76,2% беларусаў мяркуюць, што на прэзыдэнцкіх выбарах — 2006 пераможа Аляксандар Лукашэнка, аднак за яго маюць намер прагаласаваць 46,7% выбарцаў.

## Вайтовіч ідзе ў прэзыдэнты

Былы сьпікер Савету Рэспублікі Нацыянальнага сходу і экс-прэзыдэнт Нацыянальнай акадэміі навук Аляксандар Вайтовіч заявіў пра намер удзельнічаць у прэзыдэнцкіх выбарах 2006 году.

Прычын, паводле вучонага, некалькі: "наяўнасьць дыктатуры ў краіне, шматлікія звароты ад розных прадстаўнікоў самых разнастайных слаёў грамадзтва, досьвед працы ў шматлікіх арганізацый рознага ўзроўню, у тым ліку і на рэспубліканскім".

Як пісаў два месяцы таму "Беларус", РГА "Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных дасьледаваньняў" правяло апытаньне "Пэрспэктывы дэмакратычных кандыдатаў у прэзыдэнты", дзе быў выведзены рэйтынг прымальнасьці дзеяці асобаў беларускай палітыкі, якія зьяўляюцца прэтэндэнтамі на званьне адзінага кандыдата ад апазыцыі на выбарах-2006. Тады бралася пад увагу прымальнасьць кандыдатаў сярод электарату, намэнклатуры, дэмакратычных сілаў, а таксама Расеі і Захаду і выводзілася "сярэднеарыфмэтычнае". Паводле НІСЭПД, найбольшую прымальнасьць якраз мае Аляксандар Вайтовіч. На другім месцы — генэрал Валер Фралоў, але ён на гарадзенскай канфэрэнцыі дэмакратычных сілаў, што прайшла ў сярэдзіне красавіка, адмовіўся ад удзелу ў прэзыдэнцкай гонцы на карысьць кандыдата ад Партыі БНФ і экалягічнай партыі "зялёных" Аляксандра Мілінкевіча.

## Пазоў "Народнай волі"

Лідэр Лібэральна-дэмакратычнай партыі Сяргей Гайдукевіч падаў у пачатку красавіка ў суд Ленінскага раёну Менску пазоў да газэты "Народная воля". Палітык жадае спагнаць з выданьня 200 мільёнаў рублёў (каля 92 тыс. даляраў) за зьнявагу яго гонару і годнасьці. Падставай для падачы пазову стала публікацыя ў "Народнай волі" за 1 сакавіка 2005 году ксеракопіі дакумэнту, які нібы прыйшоў у офіс ЛДП з Іраку 16 чэрвеня 2002 году. У гэтым дакумэнце адзначалася: "Мы яшчэ чакаем Вашых дзеяньняў па выкананьні Вашых абавязкаў у адпаведнасьці з указаным вышэй кантрактам. Мы настойліва просім Вас вярнуць нам суму ў памеры $996.798,060, якую Вы нам завінавацілі". "Народная воля" абвінавачыла тым самым ЛДП у супрацоўніцтве з рэжымам Садамам Хусэйна і атрыманьні фінансавай дапамогі з-зя мяжы, што ёсьць парушэньнем беларускага заканадаўства.

Сяргей Гайдукевіч назваў дакумэнт фальшыўкай і запатрабаваў абвяржэньня. Паколькі "Народная воля" праігнаравала патрабаваньні, палітык зьвярнуўся ў суд. "Народная воля", паводле слоў яе галоўнага рэдактара Іосіфа Сярэдзіча, мае доказы датычнасьці Лібэральна-дэмакратычнай партыі да гандлю іракскай нафтай у часы кіраваньня Садама Хусэйна і працэсу не баіцца.

## Аднаўлена справа Завадзкага



4 красавіка Пракуратура Рэспублікі Беларусі аднавіла справу аб выкраданьні апэратара расейскага каналу ОРТ Дзьмітрыя Завадзкага ў сувязі з адкрыцьцём "новых абставінаў". Беларускі журналіст, былы апэратар Аляксандра Лукашэнкі, зьнік 7 ліпеня 2000 году, ён мусіў сустрэць у аэрапорце "Менск" свайго калегу Паўла Шарамета. Аднак у аэрапорце быў знойдзены толькі аўтамабіль Завадзкага. Была заведзеная крымінальная справа аб выкраданьні, і па выніках расьсьледаваньня ў сакавіку 2002 году вінаватымі ў выкраданьні прызналі былых супрацоўнікаў спэцпадрязьдзяленьня "Алмаз" Валерыя Ігнатовіча і Максіма Маліка. Маўляў, Завадзкі нейк абвінаваціў Ігнатовіча ў тым, што ён ваяваў у Чачні на баку паўстанцаў. Ігнатовіч і Малік былі прысуджаныя да пажыцьцёвага зьняволеньня, але свае віны не прызналі. У сьнежні 2003 году Дзьмітрый Завадзкі быў афіцыйна прызнаны памерлым.

Сваякі й сябры апэратара вельмі скептычна паставіліся да аднаўленьня справы, а Павал Шарамет выказаў думку, што цяпер віна можа быць ускладзеная на звычайных крымінальнікаў. У сакавіку ў Гомелі была арыштаваная злачынная групоўка, якую падазраюць у забойствах трыццаці чалавек. Нават сьледчы па справе заявіў наступнае: "Сьнег сышоў, пашукаем". Такія знойдуць.

## Пагроза над "Згодай"

Абвінавачаньне ў абразе прэзыдэнта можа быць прад'яўлена і рэдактарам недзяржаўнай газэты "Згода" (галоўны рэдактар — адзін зь лідэраў Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі Аляксей Кароль, рэдактар — Аляксандар Здвіжкоў). 24 сакавіка ў рэдакцыю, якая разьмяшчаецца ў прыватнай кватэры ў цэнтры беларускай сталіцы, уварваліся супрацоўнікі міліцыі. Падставаю стала вусная заява невядомага, які паскардзіўся на тое, што ў рэдакцыі нібы друкуюцца антыпрэзыдэнцкія ўлёткі. Міліцыя без санкцыі пракурора і складаньня адпаведнага акту канфіскавала кампутары, у тым ліку ўзятыя ў арэнду ў амбасадзе ЗША. Таксама зьнялі са сьценаў "антыпрэзыдэнцкія" каляжы.

Цягам месяцу супрацоўнікі "Згоды" спрабавалі высьветліць лёс кампутараў, і толькі ў канцы красавіка даведаліся, што ў дачыненьні да іх можа быць заведзеная крымінальная справа паводле арт 368 Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь (абраза прэзыдэнта). Падставай якраз і сталі "публічная дэманстрацыя антыпрэзыдэнцкіх каляжаў" у прыватнай кватэры. Рэдакцыя мае намер скардзіцца ў пракуратуру.

## Сацыял-дэмакраты нарэшце аб'яднаныя

9 красавіка нарэшце прайшоў аб'яднаўчы зьезд сацыял-дэмакратаў. Адбыўся ён на прыступках Дому культуры ў вёсцы Сеньніца пад Менскам. Адміністрацыя ДК адмовіла ў арэндзе памяшканьня. Амаль аднагалосна старшынём новай партыі, якая будзе мець назву Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя "Грамада", абраны экс-рэктар БДУ Аляксандар Казулін.

## Суд за Краснапольле

26 красавіка ў Магілёўскім абласным судзе скончыўся працэс па краснапольскай справе. У студзені 2004 году ў спартовай залі сярэдняй школы гораду Краснапольле (Магілёўшчына) абрынуліся перакрыцьці, што прывяло да сьмерці чатырох чалавек — настаўніка і трох вучняў.

На лаве асуджаных апынуліся восем чалавек — ад начальніка упраўленьня капітальнага будаўніцтва да прарабаў. Усе яны прыгавораныя да розных тэрмінаў пакараньня — ад чатырох да шасьці гадоў (паводле артыкулу "службовая нядбайнасьць"). Па абвяшчэньні прысуду ўсіх іх адразу ўзялі пад варту. Яны будуць адбываць пакараньне ў калёніі для людзей, што ўчынілі злачынства па неасьцярожнасьці.

## Спажывецкі кошык — 100 даляраў

Міністэрства працы й сацыяльнай абароны вызначыла новы памер мінімальнага спажывецкага бюджэту ў цэнах сакавіка. У параўнаньні зь лютым ён павялічыўся на 2,3% і цяпер складае на душу насельніцтва 221.060 рублёў ($102). Пры гэтым, зацьверджаны новыя мінімальныя спажывецкія бюджэты для асобных катэгорый насельніцтва. Прыкладам, кошт «спажывецкага кошыка» мужчыны працаздольнага ўзросту ацэньваецца ў 278 700 руб., працаздольнай жанчыны — у 278 970 руб., мужчыны-пэнсіянэра — у 228 740, студэнта — у 198 550, студэнткі — у 196 250.

Цікава, што гэтая лічба разыходзіцца зь бюджэтам пражытковага мінімуму разьлічанага ўрадам (135 тысяч 150 рублёў, ці $62) і мінімальнага заробку (128 тыс. 860 руб.).

*Уласны карэспандэнт*

*Выкарыстаныя фотаздымкі з газэты "Наша Ніва"*



# Лісты ў рэдакцыю

## ✉ Трагедыя

Мая родная вёска называлася Кажушкі. Я часта ў сьне хаджу па яе пясчанай вуліцы, гляджу на разьліў Прыпяці, ірву вясновыя ландышы. Душа ляціць дадому, вельмі хочацца пайсьці на наш дзіўны луг, пабачыцца з аднавяскоўцамі. Але радзіма стала небясьпечнаю пасьля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. Жыхары вёскі Кажушкі ў 1986 годзе былі эвакуяваныя і разьехаліся па ўсёй Беларусі. Але кожны год большасьць зь іх прыяжджае на Радуніцу, каб памянуць сваіх родных, прыбраць могілкі. Першы час пасьля катастрофы прывозілі хаваць сваіх блізкіх. Усё спадзяваліся вярнуцца назад. Пасьля гэтай трагедыі людзі настолькі зблізіліся, што ўся вёска стала адной вялікай раднёй.

Лукашэнка і ягоная хеўра робяць усё магчымае, каб Беларусь ды ўвесь сьвет забыліся пра Чарнобыль. Людзі кінутыя сам на сам са сваёю бядою. Цынізм улады нармальным чалавекам не асэнсоўваецца. Асабліва гэта цынічна выглядае, калі Лукашэнка 26 красавіка едзе ў Чарнобыльскія раёны, ды ўскладае кветкі да помнікаў, нешта там прамаўляе, а ў гэты час нехта з чарнобыльцаў аджывае свае апошнія дні. Паміраюць у асноўным людзі маладога ўзросту, дзеці. Сёньня трэба гаварыць аб ахвярах Чарнобылю, бо калі пра іх не казаць, то за лічбамі можна і ня ўбачыць памеры гэтай трагедыі.

***Міхед Лідзія (Карніцкая)***, родам зь вёскі Кажушкі, была адзінаю дачкою ў бацькоў, жыла у горадзе Рэчыца. Яе бацькі жылі у вёсцы Кажушкі, а бацькі яе мужа ў вёсцы Тульгавічы, якая вельмі доўга не адсялялася, а знаходзілася ўсяго за 10 км ад вёскі Кажушкі. Яна памерла ва ўзросьце 39 гадоў ад раку лімфатычных вузлоў. У яе засталося трое дзяцей. Праз год захварэў яе бацька і таксама памёр.

***Няклюдава Надзея (Ломач)***, родам зь вёскі Кажушкі, жыла ў Хойніках. Памерла ад раку малочнай грудзі ў 37 гадоў. У яе засталося двое дзяцей. Праз два з паловаю месяцы памёр бацька гэтых дзяцей. А праз год і восем месяцаў памерла яе маці (ліквідар), якая пасьля сьмерці дачкі даглядала яе дзяцей. Бяда напаткала яе сястру, якая вельмі цяжка хварэе і двух братавых сыноў: адзін зь якіх стаіць на ўліку ў анкалягічным дыспансэры, а другі – у гэматалягічным. Гэтыя маладыя людзі жывуць усе 19 гадоў усяго за 10 км ад калючага дроту, ад зоны адсяленьня. Надзея памерла не адная, а адначасна з двума суседамі, аднаму было 40 гадоў, а другому 33. За некалькі месяцаў да яе памерла суседка ад раку нагі, пакінула траіх дзяцей. Праз год памерла яе родзічка ад раку мозгу. Ёй было ўсяго 20 гадоў, засталося аднагадовае дзіцятка. Праз год памёр яе бацька, таксама ад раку мозгу.

Вядомы выпадак, які здарыўся ў вёсцы Стралічава. Малады хлапец ва ўзросьце 20 гадоў захварэў на рак крыві і, як толькі даведаўся пра гэтую хваробу, звар'яцеў.

Нябож пісьменьніка Івана Мележа, галоўны вэтлекар Хойніцкага раёну таксама памёр ад раку, хутка пасьля катастрофы.

Аднойчы мы з маёю стрыечнаю сястрою ішлі па вуліцы й сустрэлі яшчэ маладога мужчыну. Ён ішоў і хістаўся. Сястра мне сказала, што ён хварэе на рак мозгу, мае трох маленькіх дзяцей. Ён цэлы год судзіўся, каб ягонае захворваньне прызналі зьвязаным з наступствамі Чарнобылю, а яшчэ будзе судзіцца, каб яго прызналі ліквідарам ЧАЭС таму, што ён увесь час жыў і працаваў на прадпрыемстве ў горадзе Хойнікі. Гэта апавяданьне прывяло мяне ў шок. Як гэта так? Гэты чалавек ледзь ходзіць па зямлі, ледзь размаўляе і апошнія свае сілы траціць у судох. Ён добра ведае, што жыве апошнія дні, але хвалюецца за сваіх маленькіх дзяцей і судзіцца, каб нейк гэтыя дзеці потым пасьля ягонае сьмерці мелі кавалак хлеба.

Ня можна стрымаць сьлёзы маладых людзей, якія стаяць у чарзе ў анкалягіным дыспансэры, каб атрымаць дыягназ. Яны стаяць і моляцца, каб сьмяротны дыягназ абмінуў іх, і выходзяць потым ад хірурга зь белымі тварамі й шалёнымі вачымі. У кабінэтах хірургаў па анкалёгіі людзі атрымоўваюць сьмяротныя прысуды, хоць дактары аб гэтым ім і ня кажуць. Толькі за што гэтыя прысуды? У чым віна гэтых людзей? Віна ляжыць на злачыннай уладзе, якая была і якая ёсьць. Ні адзін чарнобыльскі злачынец не атрымаў пакараньня за такія велізарныя ахвяры сярод нашых людзей. Ці ня гэты факт даказвае, што ўлада была і ёсьць злачынная.

Некалькі разоў я глядзела фільм пра Раісу Гарбачову, якая памерла ад раку крыві. Міхаіл Гарбачоў там плача, яму вельмі цяжка. Мне яго вельмі шкада, але так і хочацца спытаць:" Міхаіл Сяргеевіч, вам вельмі балюча, праўда? А ці думалі вы ў 1986 годзе, што людзям у Чарнобыльскай зоне таксама будзе вельмі балюча губляць сваіх родных"?

Мяне зьдзіўляла паслухмянасьць былых кіраўнікоў вобласьці маскоўскім загадам, іх страх згубіць пасады. Яны так баяліся, што і ня думалі аб тым, што могуць згубіць свае жыцьці. Ці яны думалі, што радыяцыя іх не закране? Большасьць кіраўнікоў вобласьці даўно ўжо памерла. Асноўная хвароба рак. Праз гады 3 ці 4 памерла ад раку галоўны санітарны лекар вобласьці – ***Хулап Зоя***. Памятаю гэтую жанчыну на экране тэлевізара. У Гомельскай тэлестудыіі яна сядзіць побач з маскоўскім прайдзісьветам ад навукі Кніжнікавым, які кажа аб няшкоднай 70-бэрнай канцэнтрцыі, аб бясплатных радонавых ваннах. Галоўны доктар таго складу Гомельскай абласной санэпідэмстанцыі была не адзінаю ахвяраю.

Аднойчы, у 1996 годзе, у мяне адбылася сустрэча з супрацоўніцай гэтай станцыі, ***Васільцовай*** (прозьвішча дзявочае). Яна тады хварэла на рак мозгу. Ёй было толькі 25 гадоў. У яе быў 5-гадовы сынок. Яна мне і распавядала пра трагедыю Гомельскай санэпідэмстанцыі. Гэта было забойства людзей, бо іх накіроўвалі рабіць замеры малака, якое нікому не было патрэбным, яно было сьмяротным, як бомба. Я добра ведаю, што ў Хойніках у тыя дні працавау Грахоўскі, які таксама памёр.

Ахвяры Чарнобылю сёньня нікім не дасьледуюцца. І гэта чарговае масавае забойства ні ў чым ня вінных людзей. Аб трагічных іх лёсах можна распавядаць вельмі доўга. Выміраюць цэлымі сем'ямі. Вельмі трагічны лёс у сям'і ***Ядранцавых***. Захварэлі на рак маці й малодшы сын. Старэйшы сын хварэў на прамянёвую хваробу. Ня менш трагічны лёс склаўся ў сям'і ***Галынскіх***, дзе сын хварэў на прамянёвую хваробу, а маці на рак. Вялікая колькасьць супрацоўнікаў памёрла ў Гомельскім гарвыканкаме, таксама ад раку. Выклікае вялікае хваляваньне здароў'е маленькіх дзетак, дзяцей чарнобыльскіх дзяцей. Практычна, у чарнобыльскіх дзяцей нараджаюцца толькі хворыя дзеці.

На вялікі жаль, жыцьцё чарнобыльцаў вельмі кароткае, але Лукашэнка не турбуецца, бо на іх месца прыяжджаюць людзі з розных рэгіёнаў былога СССР. Ня верыце, паедзьце ў Стралічава Хойніцкага раёну, у Брагін, у Нараўлянскі раён і паглядзіце. За 11 гадоў Лукашэнка нічога добрага не зрабіў для чарнобыльцаў і ня зробіць. Гэтаму чалавеку ня месца быць пры ўладзе, месца ягонае ў турме.

***Галіна АРЦЁМЕНКА, Нямеччына***

## ✉ Падзяліў інфармацыю

У нумары газэты "Голас Радзімы" ад 13.04.05 зьявілася "вітальнае слова" А. Лукашэнкі. Што-ж піша чытачам газэты грамадзянін-прэзыдэнт?

Віншуе іх з тым, што ГР ужо паўстагодзьздзя нясе ім, ягоным суайчыньнікам за мяжою (якіх ён называў раней недабітымі паліцаямі), апэратыўную і дакладную інфармацыю аб Беларусі. Чаму сп. Лукашэнка падзяліў інфармацыю толькі на апэратыўную і дакладную? Чаму не дадаў такія словы, як праўдзівую, своечасовую і ў няшматлікіх выпадках можа нават і не супадаючую з поглядам самага сп. Лукашэнкі? Відавочна, што апэратыўнай інфармацыя бачыцца яму найпершай таму, што апрацоўваецца афіцэрамі апэратыўных службаў, а дакладнай таму, што пасуе дакладна кіруючаму рэжыму ў краіне.

Газэта, адзначае сп. Лукашэнка, разыходзіцца ў 52 краінах. Але для чаго? На ягоны погляд гэта робіцца для таго, каб кожны, хто памятае свае карані (у многіх выпадках ужо даўным-даўно выкарчаваныя афіцэрамі НКВД-КДБ-МВД) мог, ні многа ні мала, атрымаць асалоду ад таго самага роднага слова, якому сам Лукашэнка не дае вольна жыць у рэжымнай краіне Беларусь. Асалода ім выстаўленая на першае месца. Гэта значыць, як толькі які-небудзь эмігрант зь Беларусі бярэ на чужыне газэту ГР у свае рукі, то імгнена па ягонаму целу павінна паплысьць гэтая самая асалода. Як быццам у рукі трапіў ня вынік прасавецкай беларускай прапаганды, дзе адкрыта *пішацца журналісткай Рэгінай Гамзовіч* пра тое, што рускае поле лепшае за беларускае, а нешта параўнальнае зь беларускімі васількамі на жытнёвым полі. Гляну — і аж дух захамянула, сэрца закалацілася — нарэшце дачакаўся, вось яно, прыплыла ў рукі, дайце на што сесьці...

Ну і вядома, падкрэсьлівае Аляксандар Лукашэнка, як толькі схалануць эмігранта тыя дрыжыкі ў руках, павінен прачытаць ён пра шчасьлівае жыцьцё ў Беларусі й парадавацца яе посьпехам.

А чаму ня радавацца эмігрантам той аператыўнай і дакладнай інфармацыі? На думку Аляксандара Лукашэнкі, газэта мае прызнаньне і давер сярод чытачоў, і ўтрымлівае іх ужо доўгі час. Праўда, ён ня піша, што пасьля вайны ніхто сярод эмігрантаў яе не чытаў і нават, каб насаліць адзін аднаму, яе падкідвалі ў паштовыя скрынкі сваім палітычным апанэнтам, на што тыя выклікалі паліцыю, каб тая разбіралася, як прапагандысцкая савецкая чырвоная газэтка апынулася ў іхных скрынках. Сёньня ГР амаль ніхто не выпісвае, рэдакцыя і амбасады рассылаюць яе бясплатна па адрасох беларускіх эмігрантаў, якія змаглі знайсьці.

На заканчэньні сп. Лукашэнка жадае калектыву газэты надалей трымацца вузкага акенца дазволенай творчасьці, новых дасягненьняў у разуменьні асьцярожнасьці працы рэдакцыйнай калегіі, цікавых, дазволеных рэжымам інфармацыйных праектаў і здароўя, якое так неабходна мець пры такой прыцы, калі за памылковы артыкул могуць і па шапцы добра даць. І ў дадатак жадае дабрабыту ў дазволеных межах.

Слоў "Жыве Беларусь!" можаце ля подпісу кіраўніка дзяржавы не шукаць.

***Віктар КАВАЛЕЎСКІ, Аўстралія***

## ✉ Справы мясцовыя

### Ліст-папярэджаньне

Сьмелая, непахісная, рашучая й бескампрамісная эміграцыя! Мы годна выступаем на сходках БАЗА супраць русыфікацыйнай палітыкі Масквы, кляймім ля будынку ААН дыктатара, зь сьлязою на вачох і трымценьнем гарачага сэрца сьпяваем "Мы выйдзем шчыльнымі радамі". Мы-б выйшлі, але акіян, мытня, ворагі з кулямётамі на мяжы замінаюць нам гэта зрабіць. Мы-б прайшлі пад бел-чырвона-белымі сьцягамі праз Плошчу Незалежнасьці й зруйнавалі-б антыканстытуцыйны дыктатарскі прамаскоўскі рэжым. Але пакуль тое немагчыма, мы з гэтага берагу дасылаем сваім братам у няволі ня толькі танныя спачуваньні й прынагодныя віншаваньні, але й канкрэтныя парады – што ды як ім трэба рабіць.

Мы настолькі занятыя выратаваньнем Беларусі, вялікаю палітыкаю Масквы й Менску, удзелам у выбарах новага прэзыдэнта, што зусім забыліся на нашыя ўласныя справы.

Вядома, любіць народ здалёк – нашмат прасьцей як любіць чалавека каля сябе. Тое самае і з ворагам: прасьцей змагацца зь ім на адлегласьці, як тады, калі ён поруч. А вораг, прычым, нявыдуманы, а самы сапраўдны, ёсьць.

Беларускае грамадства за мяжою разпораз працінаюць сваркі: пераважна побытавыя, зрэдку – больш глябальнага пляну (крывічы-зарубежнікі). У ва ўсіх на памяці, відаць, адная з самых доўгагадовых сварак, зацятая, гострая, з судовымі позвамі, - царкоўная, якая скончылася з адыходам у лепшы сьвет мітрапаліта Мікалая (Мацукевіча). Але тое былі сваркі беларуская грамадзтва.

У небясьпецы, на якую я хачу зьвярнуць увагу гэтым лістом, зноў у цэнтры апынулася царква Сьв. Кірылы Тураўскага, што ў Брукліне, але праблема тая ня зводзіцца да формулы "беларус супраць беларуса". Тут формула іншая – формула супраціўленьня касьцей, як некалі напісаў Юрка Віцьбіч: маскалі супраць *беларусаў*.

Так, людзям, далёкім ад гэтае царквы, ня варта дзівіцца: сьвятыня, што зусім нядаўна была адным з цэнтраў беларускасьці ў Нью Ёрку, калі яшчэ ня згубленая для нас цалкам, дык можа быць згубленая ў бліжэйшы час. Адзін з "мастораў" беларускага й царкоўнага жыцьця там, Барыс Данілюк, сын слуцкага паўстанца й сьвятара Хведара Данілюка, ужо выгнаны са сьценаў некалі роднай яму сьвятыні. І кім? Прыгрэтымі ім-жа самім Ю. Васілеўскім-Чудзіным і "сьвятаром" Ігарам. Іхныя ўжо нічым непрыхаваныя сымпатыі да Масквы, нежаданьне даваць царкоўную залю – прычым, не сваю ўласнасьць, а грамадзкую! – пад беларускія імпрэзы, сходкі, замена Пагоні на іконы, акружэньне сябе расейскамоўнымі прыхаджанамі, сьведчаць пра адное: сярод нас сапраўдныя ворагі, якія імкнуцца пазбавіць нас нашай царквы, выкарыстоўваючы пры гэтым дэмакратычныя сродкі. Калі яны прыцягнуць у царкву зь дзесятак праваслаўных з цэркваў РПЦ, увядуць іх у Царкоўную Раду – хто заміне ім потым наагул выгнаць беларусаў зь іхняю моваю з сьценаў царквы, набытай на беларускія грошы?! А такі плян, бяз сумніву, ажыцьцяўляецца ўжо цяпер, інакш чым тлумачыцца пераход іхнай газэты "Беларускі час" на расейскую мову, словы "сьвятарка" пра хамства беларускай грамады, размовы пра непатрэбнасьць знаходжаньня там нашага сьцягу?!

Страта царквы – пагроза настолькі рэальная, наколькі можа быць рэальным вораг. Ёсьць у нас Рада БНР з прэзыдэнтам Івонкаю Сурвілла, ёсьць кандыдат у прэзыдэнты Беларусі Зянон Пазьняк, ёсьць БАЗА з сваімі старшынямі. Да вас зьвяртаюся: пакуль ня позна, схамяніцеся, дайце адпачыць сваім асадкам, пакіньце на хвіліну ў спакоі Лукашэнку, Пуціна, зрабіце справу, беларускую справу тут: трэба выгнаць ворага з нашае царквы! Ніхто вам ня дасьць веры ў большых справах, калі ў гэтай мясцовай вы не парамажаце.

***Былы парафіянін***

# Сьвяткаваньні 25 Сакавіка ў беларускіх асяродках

## Англія

Згуртаваньне Беларусаў у Вялікай Брытаніі 2-га красавіка 2005 году ў залі Беларускага Культурна-Рэлігійнага Цэнтру на 39 Holden Rd у Лёндане ладзіла сьвяткаваньне 87-й гадавіны абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. А 14-й гадзіне ў царкве Сьв. Пятра і Паўла а. Аляксандар Надсон адслужыў малебен за беларускі народ і за душу Сьв. айца Яна Паўла II, Папу Рымскага, які надаўна адыйшоў у лепшы сьвет.

У пропаведзі а. Аляксандар выказаў важнасьць Акту 25 сакавіка 1918 году для беларускага народу і заклікаў не забываць, а шанаваць яго.

А 15-й гадзіне папаўдні пачалася акадэмія. Заля запоўнілася людзьмі рознага ўзросту. Між ангельскіх прысутных ганаровым госьцем быў Яго Эксэленцыя Браян Бэнэт, брытанскі амбасадар у Беларусь. Зь Менску прыехала вядомая сьпявачка спн. Кася Камоцкая.

Акадэмію адкрыла на беларускай мове Старшыня Управы ЗБВБ спн. Л. Міхалюк. Ад імя ЗБВБ яна павітала гасьцей, падзякавала за прысутнасьць на такой важнай для нас гадавіне, якую беларусы сьвяткуюць кожны год. Сп. В. Шаўцоў на ангельскай мове падзякаваў амбасадару і ангельскім гасьцям за прысутнасьць і ахвоту браць удзел у акадэміі. Сп. Шаўцоў прачытаў прывітаньні ад Старшыні Рады БНР спн. Івонкі Сурвіллы ды ад іншых арганізацыяў з усяго сьвету.

На ангельскай мове зьмястоўны рэфэрат пра гістарычныя падзеі 1918 году прачытаў сп. М. Пачкаеў. Зьмест рэфэрату зацікавіў многіх прысутных. Пачалася дыскусія. Ангельскага амбасадара ў Беларусі папрасілі распавесьці пра ягоныя ўражаньні ад побыту ў Беларусі. Той дыпляматычна адказаў, што палюбіў Беларусь і яе ветлівы, а можа часамі й занадта, народ.

Сьпявачка спн. Кася Камоцкая іграючы на гітары прасьпявала некалькі сваіх песьняў, за якія прысутныя ўзнагародзілі яе апладысмэнтамі.

Акадэмія закончылася адсьпяваньнем нашага нацыянальнага гімну "Мы выйдзем шчыльнымі радамі". Спадарыні Джын Дзейка і Алена Сенька прыгатавалі багаты стол. З чаркаю віна хутка праляцеў час, і ўдзельнікі сьвяткаваньня пачалі раз'яжджацца па розных кутках Англіі.

Жыве Беларусь!

*Сыльвэстар БУДКЕВІЧ*

## Аўстралія

### Мэльбурн

У нядзелю 3 красавіка 2005 году Беларускі Нацыянальны Камітэт у Вікторыі супольна з парафіяй Сьвятых Віленскіх Пакутнікаў у Мельбурне Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы адзначылі 87-я ўгодкі абвешчаньня Беларускай Народнай Рэспублікі.

А. Кулакоўскі адслужыў малебен за беларускі народ. На наступны тыдзень афіцыйная частка сьвяткаваньня адбылася ў прыцаркоўнай залі з наступнай праграмай: старшыня БЦКВ сп. Алег Шнэк прывітаў усіх прысутных і папрасіў сп. Аўгена Грушу прачытаць дасланыя прывітаньні. Потым сп. Янка Барысевіч прачытаў вельмі зьмястоўны рэфэрат на тэму дня. Пасля мастацкай часткі ўсе прысутныя ўсталі й прасьпявалі беларускі нацыянальны гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

Пасля агульнага пачастунку Старшыня Беларускага Цэнтральнага Каітэту ў Вікторыі сп Алег Шнэк падзякаваў усім за прысутнасьць.

*www.zbsb.org*

## Польшча

Напярэдадні Дня Незалежнасьці Беларусі, 23 сакавіка, беларусы сабраліся на Сьвятую Імшу, адпраўляную па-беларуску, каб разам маліцца за нашую Радзіму. Імша была ўрачыстай удвая – сёлета Дзень Незалежнасьці амаль супадае з Вялікаднем. Прыемна, што ў гэты дзень на беларускай Імшы былі ня толькі беларусы, але, па добрай традыцыі, і прадстаўнікі іншых нацыянальнасьцяў. Імшу служыў душпастар беларускай моладзі ў Варшаве – ксёндз Аляксандр Амяльчэня. Вельмі ўзрушваючае казаньне прачытаў ксёндз Алесь Каліноўскі. Як заўсёды, казанне айца Алеся было вельмі блізкім і зразумелым для кожнага.

Пасьля Сьвятой Імшы ўсе перайшлі да "Камедульскіх Падзямельляў", дзе чакала сьвяточная вячэра з прысмакамі, некаторыя зь якіх былі спэцыяльна прывезеныя зь Беларусі. Гэтым разам на нашае спатканьне прыйшоў вядомы перакладчык беларускіх твораў на польскую мову – спадар Чэслаў Сенюх. Разьвітваючыся, ён сказаў, што менавіта тут ён упершыню ў Польшчы пабачыў месца, дзе можна адчуць сапраўдны беларускі дух. Па сутнасьці, менавіта таму і існуюць гэтыя спатканьні – каб у цэнтры Польшчы па-ранейшаму адчуваць сябе беларусам.

З нагоды Дня Незалежнасьці прыехалі двое маладых беларускіх бардаў, таму смакуючы беларускія стравы, можна было адначасова слухаць вельмі вядомыя, а таксама новыя для нас аўтарскія песьні. "Незалежная – Ты ў нас адна..." – гучалі словы адной з песень. Што-ж, сапраўды, яна ў нас адная, але, нажаль, пакуль што зусім не незалежная. Таму мы зьбіраемся разам і молімся за нашыя сем'і, якія засталіся ў Беларусі, за нашую зямлю, якая такая дарагая нашаму сэрцу, за нашую краіну, якая абавязкова дачакаецца сваёй незалежнасьці. Дзякуй Богу, маліцца ў Беларусі пакуль што не забаронена.

*www.biel.ini.org.pl*

## Канада

### Аттава

Чацьвёрты год запар урачыстае сьвяткаваньне Дня абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі праходзіць у будынку муніцыпалітэту сталіцы Канады Аттавы. У прасторнай залі сабраліся людзі, каб адзначыць гэту важную для Беларусі гістарычную падзею. Ідэі незалежнай і вольнай дэмакратычнай краіны, абвешчаныя 87 гадоў таму назад Радаю БНР, і цяпер зьяўляюцца актуальнымі для сучаснай Беларусі, якая рана ці позна ўздыме сьцяг свабоды. У залі былі ўсталяваныя сцягі Канады, правінцыі Антарыё і бел-чырвона-белы сьцяг Беларусі, гучалі беларускія песьні.

Урачыстае паседжаньне пачалося з ушанаваньня памяці старэйшага грамадзкага дзеяча, заступніка старшыні Рады БНР др. Барыса Рагулі. Пасьля хвіліны маўчаньня ўдзельнікі пачулі верш, прысьвечаны гэтаму легендарнаму чалавеку, які так шмат зрабіў для Бацькаўшчыны.

У асноўным дакладзе, зробленым старшынёю Рады БНР, спн. Івонкай Сурвілла, была адзначаная важная роля, якую адыграла і працягвае выконваць па сёньняшні дзень Рада БНР, разгледжаная сучасная сытуацыя ў Беларусі, выкладзеныя шляхі да ўсталяваньня свабоды й дэмакратыі ў Беларусі. Пасьля прамовы была абмеркаваная і прынятая рэзалюцыя ўдзельнікаў урачыстага паседжаньня, сабраныя грошы на падтрымку дзейнасьці Рады БНР ("Дар Сакавіка").

Затым адбыўся канцэрт, асноўнымі артыстамі якога былі вучні беларускай суботняй школкі ў Аттаве. Як прыгожа ў выкананьні дзяцей малодшага веку, ад 4 да 7 гадоў, гучалі беларускія вершы, песьні. Яны яшчэ і цудоўна танчылі "Бульбу", вадзілі "Карагод". Асобная падзяка была выказаная настаўнікам, якія займаюцца зь дзецьмі ў школе і якія падрыхтавалі гэты канцэрт, сп-ву Данаце і Пятру Мурзёнкам. На заканчэньні канцэрту наш цудоўны дуэт Волі Рыкавай і Ўлады Шамецька выканалі дзьве п'есы для скрыпкі.

Урачыстае паседжаньне скончылася выкананьнем гімну Беларускай Народнай Рэспублікі "Мы выйдзем шчыльнымі радамі". Удзельнікі ўрачыстасьці сходу не разыходзіліся, бо мелі час папіць каву, адведаць дэлікатэсы, пагутарыць і пазнаёміцца з мастакамі й іхымі творамі. На выставе былі прадстаўленыя працы спн.спн. Яны і Паліны Клімавых, Ірэны Клімковіч, Алены Ляпко. Усе былі вельмі ўдзячныя аўтарам за іх удзел у выставе, і засталіся вельмі задаволеныя самімі экспанатамі (карцінамі, афортамі, керамікай), а таксама тым, што маглі задаць пытаньні пра тэхніку стварэньня і сюжэты гэтых твораў, пачуць пра далейшыя пляны мастакоў. Сьвяткаваньне доўжылася амаль чатыры гадзіны.

*Д-р Пётр МУРЗЁНАК*

### Таронта

Надзвычай прыемная атмасфэра панавала ў Беларускім грамадзкім цэнтры ў Таронта ў час сьвяткаваньня Дня Волі. Заля была перапоўненая. У царкве Сьв. Кірылы Тураўскага а. Вячаслаў адслужыў малебен за Беларусь. Надзея Дробіна прачытала даклад, прысьвечаны 87-м угодкам абвешчаньня Беларускай Народнай Рэспублікі. Былі зачытаныя лісты, сярод якіх – Зварот Старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Івонкі Сурвіллы й віншаваньне Старшыні Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" Зянона Пазьняка. Першы беларускі тэатар на паўночна-амэрыканскім кантынэньце, арганізаваны спадарыняй Ірынай Шарамет, парадаваў суайчыньнікаў і гасьцей прэм'ераю спэктакля "Паўлінка" паводле п'есы Янкі Купалы.

Радасна адзначыць, што ў сьвяткаваньні бралі ўдзел парафіяне яшчэ адной беларускай праваслаўнай царквы ў Таронта – Сьвятой Еўфрасіньні Полацкай. А 26-га сакавіка над ратушаю ў Таронта ўзьняўся беларускі бел-чырвона-белы сьцяг. Гэтую акцыю шмат гадоў таму арганізавала доктар Раіса Жук-Грышкевіч, а зараз працягвае доктар Руслан Качаткоў – старшыня Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады.

*www.zbsb.org*

## Чэхія

Праскія беларусы 25 сакавіка сёлета ўсклалі кветкі на магілы Прэзыдэнтаў Рады БНР Пятра Крэчэўскага і Васіля Захаркі, а таксама выбітнага сьпевака Міхася Забэйды-Суміцкага.

На наступны дзень у гонар угодкаў утварэньня Беларускай Народнай Рэспублікі актывісты асьветніцкай суполкі "Скарына" наладзілі прыняцьце ў рэстарацыі "Жофін", што на Славянскім востраве ў Празе.

Пад час урачыстасьці выступілі народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін, намесьнік Старшыні Рады БНР Сяргей Навумчык, старшыня партыі БНФ Вінцук Вячорка, а таксама сэнатары князь Карэл Шварцэнбэрг і Сьвятаплук Карасек, перакладчыца-беларусістка Францішка Сокалава, прадстаўнікі чэскага дабрачыннага фонду "Чалавек у нядолі". Прысутных віталі старшыня суполкі "Скарына" Алена Ціхановіч, сябра Рады БНР Уладзіслаў Яндзюк. У залі былі некалькі дзесяткаў чалавек – у тым ліку студэнты і палітычныя ўцекачы зь Беларусі.

Пазьней адбыўся канцэрт, у якім сьпявалі свае песьні Віктар Шалкевіч, Сьвятаплук Карасек і Пепа Нос.

*Сяргей НАВУМЧЫК*



**На фота: на Альшанскіх могілках прамаўляе Рыгор Барадулін.**



# Весткі й Паведамленьні

ньюёркаўскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня

Viestki j Paviedamlenni

Belarusan American Association, Inc.

166-34 Gothic Drive, Jamaica, N.Y. 11432 Сусьветнае сеціва: www.baza-belarus.org

№5 (472)

# Красавіцкі сход аддзелу БАЗА ў Нью Ёрку

У грамадзкай залі пры Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне 10 красавіка адбыўся чарговы, красавіцкі сход Нью Ёрскага аддзелу БАЗА. Напачатку старшыня аддзелу сп. В. Зайка прадставіў прысутным госьця — скульптара і мастака Аляксандра Шатэрніка. Сп. Шатэрнік распавёў пра сябе, пра сваю творчасьць і пра становішча ў Беларусі, якое ня можа абмінуць сьвядомасьці мастака. Ён таксама закрануў дзейнасьць творчай мастацкай суполкі "Пагоня". Сп. А. Шатэрнік распавёў аб праекце стварэньня «Звону Свабоды», аўтарам якога ён зьяўляецца супольна з мастаком Аляксеем Марачкінам. Аляксандар Шатэрнік прачытаў прысутным некалькі сваіх вершаў, якія зь цікавасьцю былі сустрэтыя прысутнымі.

Затым выступіў старшыня Беларускага Народнага Фронту сп. Зянон Пазьняк. Ён сказаў, што добра ведае сп. Шатэрніка, свайго сябра, і што час, пакуль яны ня бачыліся, сп. Шатэрнік творча вырас, бо пачаў пісаць вершы".

Сп. Пазьняк прысьвяціў свой выступ сьветапоглядным і стратэгічным аспэктам беларускага руху, улічваючы, што ў залі сабралася моладзь, якая ў сёнешняй Беларусі мела няшмат магчымасьцяў да атрыманьня аб'ектыўнай інфармацыі. Спыніўшыся на асноўных, вызначальных момантах беларускай гісторыі, прамоўца адзначыў, што кожны, хто цікавіцца сапраўднай гісторыяй, ня можа не захапіцца глыбінёю і ўзроўнем культуры беларускага народу. Прыводзілася параўнаньне зрэзу культурнага слою на раскопках каля аднаго з разбураных сабораў у Менску, якія



*Сп. Аляксандар ШАТЭРНІК падчас выступу на сходзе.*

праводзіў сп. Пазьняк, з вобразам нашай гісторыі, у якой трапляюцца разнастайныя знаходкі, але ў значнай ступені — попел, вынік войнаў і зьнішчэньняў. Шмат гаворыцца, асабліва дзеля палітычных дывідэндаў і асабліва рэжымам Лукашэнкі, аб вайне зь Нямеччынай 1941-1945 гадох, што загубіла чвэрць насельніцтва Беларусі. Але мала хто ведае пра вайну 1648-1655 гадоў з Расеяй, у якой захопнікамі з усходу было вынішчана больш паловы жыхароў беларускіх земляў. Памяць народу старанна і мэтадычна вынішчалі цягам некалькіх стагодзьдзяў, і цяпер мы сутыкаемся з вынікамі гэтага працэсу.

Сп. Пазьняк адзначыў, што вызваленьне Ўкраіны ад аўтарытарызму і расейскага ўплыву дае спадзяваньні да аднаўленьня старадаўняй лучнасьці паміж народамі Сярэдняй і Ўсходняй Эўропы. І вызваленьне Беларусі можа даць новы імпульс як палітычнаму, гэтак і эканамічнаму разьвіцьцю рэгіёну, Балтыйска-Чарнаморскай Супольнасьці, у тым ліку праз рэалізацыю праекту Балта-Чарнаморскага Нафтавага Калектару, які быў старанна зьнішчаны з дапамогай расейскіх сыпэцслужбаў напачатку 1990-х гадоў. Сп. Пазьняк далей у прыватнасьці адзначыў: «Не забывайма ся, што дыпляматычнай мовай Усходняй Эўропы ў сярэднявеччы была старабеларуская мова. Нават у Малдове і Валахіі яна была ў афіцыйным ужытку. Сёньня Беларусь таксама можа спрычыніцца да яднаньня сілаў. Нацыянальныя рэвалюцыі могуць рабіцца толькі нацыянальнымі сіламі. І менавіта нацыянальная ідэя, ідэя годнага існаваньня народу на сваёй зямлі, з сваёй уласнай мовай і культурай, сваім урадам і войскам, і пад сваім нацыянальным сьцягам перамагла ў большасьці краінаў і працягвае перамагаць. Мне кажуць: сп. Пазьняк, Вас не падтрымаюць, 25% насельніцтва перакanana выступяць супраць Вас. Але я кажу так: «Я люблю свой народ, нават калі частка яго ненавідзіць мяне. Я веру, што змагу давесьці да яго праўду, і веру што ён уздымецца да лепшага жыцьця, што ён павернецца тварам да Эўропы, да сваёй мовы й гісторыі, да свабоды. Дзеля гэтага неабходна зрабіць шэраг крокаў, у ліку якіх я назваў бы наступныя:

1. Надаць прыярытэт адукацыі маладога пакаленьня. Сёньня галоўнае багацьце нацыі — *ня нафта, ня вугаль, але інтэлект.* Узгадаваньне маладой нацыянальнай сілы ёсьць найгалоўная рэч.
2. Другі прыярытэт — зямля. Да гэтай пары рэжым Лукашэнкі не прыняў рашэньня аб уласнасьці на зямлю, ведаючы, якою сілаю могуць стаць свабодныя працаўнікі на сваёй уласнай зямлі.
3. Эканоміка — ажыцьцяўленьне праграмаў, якія былі распрацаваныя больш за дзесяць гадоў назад і ўвесь час удасканальваліся.
4. Разьвіцьцё культуры й фундамэнтальнай навукі як падваліна ў будучыні.
5. Актыўная падрыхтоўка да ўдзелу ў міжнароднай і рэгіянальнай палітыцы, чаго пры сёнешнім рэжыме ў Беларусі фактычна не існуе.

У Эўропе засталася толькі адна імпэрыя — Расейская. Унутрана яна сказаная на пагібель, яна ня можа існаваць доўга, яна гіне пад сваім уласным цяжарам. І рэжым робіць памылку, прыціскаючыся да гэтай імпэрыі. Дні рэжыму ўжо падлічаныя, і трэба быць гатовымі да ахвярнай і цяжкой працы на карысьць вызваленай Бацькаўшчыны.»

**Віталь ЗАЙКА**



**Уплаты ў ньюёркаўскі аддзел БАЗА:**
**Ахвяраваньні й складкі:**

А. Кіпель ................240 М. Клакоцкі ................30

**Шчыры дзякуй!**

**Уплаты дасылайце на адрас:**
*Valeri Dvornik*
*172 Millspring Rd.*
*Manhasset, N.Y. 11030*
**Чэкі выпісвайце на *Belarusan American Association.***

## Прамова В. ЗАЙКІ

*Заканчэньне з бачыны 1*

Мы выказваем пратэст супраць злачыннай абыякавасьці, якую рэжым Лукашэнкі зрабіў асновай сваёй палітыкі ў дачыненьні да людзей, пацярпелых ад Чарнобыльскай катастрофы.

Мы патрабуем ад уладаў у Беларусі спыніць дэзынфармацыю пра бясьпеку пражываньня на забруджаных землях.

Мы патрабуем даць людзям на забруджаных тэрыторыях права выбару, ці застацца, ці выехаць на чыстыя землі, і падмацаваць гэтае права адпаведным фінансаваньнем.

Мы патрабуем забясьпечыць усіх пацярпелых ад Чарнобыля медычнай дапамогай і лекамі, аднавіць ільготы інвалідам Чарнобылю ды іншым групам пацярпелага насельніцтва.

Мы патрабуем зьняць перашкоды й абмежаваньні на гуманітарную дапамогу з замежжа і на выезд дзяцей на азадараўленьне.

Мы патрабуем не дапускаць прымусовага разьмеркаваньня на забруджаныя радыяцыяй абшары маладых сьпэцыялістаў, што скончылі вышэйшыя й сьпэцыяльныя навучальныя ўстановы.

Мы спадзяемся на дапамогу і разуменьне ўсіх людзей добрай волі ў справе сапраўднага пераадоленьня наступстваў Чарнобыльскай аварыі, ад якіх сёньня пакутуюць сотні тысяч беларусаў.

**Віталь ЗАЙКА**

Добры дзень, газэта "Беларус"!

Шчыра дзякую за тое, што друкуеце мае артыкулы. Я іх памнажаю, паказваю глыбачанам. Такім чынам, кропля да кроплі спрабую зьмяніць сьвядомасьць людзей, замбаваных уладаю. Людзі ўдзячныя, просяць пачытаць газэту, шкадуюць, што "Беларус" далёка, што далёка праўда, якую ён нясе, пра якую піша. Кажуць, кропля камень точыць. Магчыма, і нашыя намаганьні некалі дадуць плён.

...Дасылаю Вам артыкул, які падрыхтавла да гадавіны ўступленьня Польшчы ў Эўразьвяз 1 травеня 2004 году. У ім факты, аналітыка, высновы, разважаньні. З гэтым матар'ялам я зьвярталася ў дзяржаўныя і незалежныя газэты. Ніводная не ўзялася друкаваць, хоць пра Беларусь, пра нашыя парадкі нічога крытычнага няма. Ну дзяржаўныя выданьні – зразумела. Кажуць, што калі надта добра напісана пра суседку Польшчу, то відавочна, наколькі дрэнна ў нас. Гэта так. Антанімізм сытуацыі ляжаў у аснове працы над эсэ. Ну а чаму незалежныя не ўзяліся, мне не зразумела. А подобныя матар'ялы патрэбныя людзям, як паветра. Мала хто езьдзіць у замежжа, бачыць, як яно і што. Трэба паказваць, расказваць, пераконваць насуперак дзяржаўнаму "тэле і радыёгіпнозу". Вось таму і прашу Вас надрукаваць эсэ. Кожны радок яго прапаушчаны праз сэрца. Наколькі радавалася, бачачы й пішучы пра дасягненьні Польшчы, настолькі балела, смылела душа за Беларусь. Гэты боль павінны адчуць мае землякі. Веру, што дапаможаце. ...

*Галіна СУТУЛА, журналістка з Глыбокага*

# Сучаснасьць з эўрапейскім калярытам

## I. Партрэт на фоне часу

*O Polska nasza, ziemio ukochana...*
***Helena BARTOSZEWSKA***

Намаляваць партрэт сучаснай Польшчы на фоне часу можна было-б даволі лёгка і проста, выкарыстаўшы "фарбы" сярэднестатыстычных паказчыкаў у краіне, якія за апошнія гады "падрасьлі". А зрабіць гэта можна было-б, расказаўшы пра жыцьцё асобна ўзятай польскай сям'і, якая адчула сябе гаспадаром становішча, стала жыць моцна, пэрспэктыўна і па-сучаснаму ўпэўнена. Але сказаць пра сучасную Польшчу моваю сярэднестатыстычнасьці – гэта значыць не сказаць нічога. Польшча стала паўнапраўным сябрам Эўрапейскага Зьвязу, раўнапраўна-дэмакратычнай і паўнапраўна-цывілізаванай, і жыцьцё яе грамадзянаў, як і краіны ў цэлым, мераць сярэднім "мэтрам" было-б і прымітыўна, і непаважліва. У дадзеным выпадку трэба прымяняць зусім іншыя меркі эўрацывілізацыі.

* * *

Едучы першы раз у Польшчу, думала: "Ну вось пераcяку мяжу і ўбачу зусім іншае неба, іншую зямлю, іншых людзей. А як-жа інакш? У Польшчы ўсё павінна быць іншым, таму што палякі самыя распараджаюцца сваім лёсам і жывуць багацей, і да Эўропы хінуцца... Але за мяжою аказалася тое-ж, як у нас блакітнае неба, такая-ж урадлівая прыгожая зямля і зусім такія, як і мы, людзі, працавітыя, ветлівыя і спагадлівыя. І ўсё-ж жыцьцё ў Польшчы, што золата, якое мае вышэйшую, чым у нас, пробу. Старыя парадкі, старыя ўяўленьні й сьведамасьць зжылі сябе і, як той час, зьніклі ў нябыце. На зьмену ім прыйшло новае пакаленьне жыцьця і дзейнасьці. Прыярытэт надаецца новаўвядзеньням і экпэрымэнтатарству. І жыцьцё, уздыхнуўшы на поўныя грудзі, расквітнела дабрабытам.

* * *

Меркаваць аб маштабных працэсах, якія адбываюцца зараз у Польшчы, не сказаўшы аб побыце палякаў, немагчыма. Таму мае тэзісы – гэта доказ таго, што краіна цьвёрдым крокам ідзе па шляху прагрэсу, які ахапіў усе сфэры жыцьця і дзейнасьці палякаў.

Пачатак чэрвеня. У Беларусі каларадзкія жукі з апэтытам наваліліся на бульбоўнік, а палякі ўжо спажываюць маладую бульбачку. Яе ў крамах гатункаў дваццаць.

На прылаўках польскіх крамаў круглы год сьвежая гароднiна...

Мясныя, малочныя, хлебныя вырабы ў зручнай расфасоўцы й прывабнай упакоўцы. Тавар там на адзін-два разы спажываньня, каб не псаваўся і не набіваў аскоміну...

Харчуюцца палякі ня тым, што таньней, а тым, што на карысьць здароў'ю...

Палякі не заспакойваюцца і не спыняюцца на дасягнутым, ня кажуць, што ў іх добра, а недзе значна горш. Яны раўняюцца на краіны з разьвіцейшым эканамічным патэнцыялам, як Нямеччына, Бэльгія, Галяндыя. Такі падыход абумоўлівае актыўны рух наперад. Таму ў краіне растуць пэнсіі, заробкі, сацыяльныя выплаты, і ні прэзыдэнт, ні мясцовыя ўлады ў заслугу сабе гэтага ня ставяць...

Палякі прыйшлі да высновы, што лепш рыхтаваць граматных спэцыялістаў вузкага прафілю, чым абы якіх шырокага: разумна, калі якасьць пераважае над колькасьцю...

Разумеюць у краіне, што заробкі лепш плаціць у канвэртах, улічваючы ўменьне і заслугі кожнага, чым па агульнай ведамасьці ўсім за прыход на працу...

Актыўны адпачынак на лецішчах і сотках выцясьняецца сапраўдным карысна-пазнавальным адпачынкам: палякі едуць вандраваць у сьвет, а ён, як вядома, сустракае іх як доўгачаканых дарагіх гасьцей...

А шостай раніцы польскія вёскі сьпяць... Раніца ў Польшчы й Беларусі – розныя паняцьці...

Матычкі, сярпы, сячкарні сталі музэйнымі экспанатамі, а не асноўнымі прыладамі працы на зямлі. Зямлю апрацоўваюць тэхнікай...

Палякі патрэбныя сваёй краіне не як парабкі, а як гаспадары...

У Польшчы пануе родная мова...

Рэкляма, якая выскоквае з-за кожнага павароту – паказчык прагрэсу сьвядомасьці нацыі, якія немагчымы без паўсюднага анонсу...

Прэзыдэнт Польшчы часта наведвае эўрапейскія краіны, а там ёсьць чаму павучыцца, з кім абмяняцца вопытам, ёсьць у каго пазычыць лепшае, перадавое, тое, чаго не хапае дома...

Палякі выбіраюць сваіх кіраўнікоў і ведаюць, за што іх можна паважаць...

Улада, абраная народам, назубок ведае галоўнае правіла "гульні": яна паважае народ, працуе дзеля яго дабрабыту і росквіту краіны, а народ давярае ёй свой лёс...

Жыцьцё – гэта бясконыя антыподы й палярнасьці. Галоўнае, каб яны згладжваліся мудрымі рашэньнямі й паводзінамі дзяржавы. Таму, вучачы іншых, дзяржава павінна быць дасьведчанаю сама. Абяцаючы, мусіць трымаць слова. Прагназуючы будучыню, быць у адказе ня толькі за лёс нацыі, але і за лёс кожнага грамадзяніна.

У гэтых аксіёмах пераплеценыя правы чалавека і абавязкі дзяржавы, жаданьні асобы й магчымасьці грамадзтва.

Гэтыя пастуляты – канцэптуальныя асновы дзяржаўнага кіраваньня Польшчы.

Палітыкі розных узроўняў не баяцца даваць інтэрв'ю, выказваць свае думкі, яны не хаваюцца ад пытаньняў і не адсылаюць журналістаў да вышэйшага кіраўніцтва. У польскай улады няма сакрэтаў ад сваіх грамадзянаў.

У Польшчы шмат беларускіх студэнтаў, высокакваліфікаваных спэцыялістаў, праца якіх належным чынам ацэненая...

Для палякаў галаўны боль – хвароба: ідуць да дактароў на праверкі, пьюць лекі. Яны адвучыліся жыць з штодзённым галаўным болем, а для беларусаў ён – норма, звычайнасьць...

"Чорны дзень" палякаў – гэта ўчарашняе краіны. Чорны колер з упэўненасьцю можна выкрэсьліць як з штодзённага жыцьця палякаў, так і з грамадзкіх адносінаў, палітычна-эканамічнай сфэры, зьнешнепалітычных стасункаў...

Палякі вучацца ў эўрапейцаў практыцызму, дзелавітасьці, мэтанакіраванасьці. Эмоцыі яны ператвараюць у моцную сілу, якая падвойвае энэргію намаганьня дзеля пастаўленай мэты...

Мой знаёмы пан Вацлаў пры размове сказаў: "Наша жыцьцё паляпшаецца. Мы сталі больш зарабляць і хочам, каб на зароблены грошы змаглі купіць усё, акрамя бяды." У гэтым радкоўі пераплаліся жаданьні простага чалавека з плянамі дзяржавы. Гэтая еднасьць – моцны фундамэнт шчасьлівай будучыні краіны й зарука яе посьпеху.

Ну а выніковая рыса сказанага кароткая і ляканічная: мяжа паміж жаданым і рэальным у Польшчы скарачаецца. Гэта самае галоўнае дасягненьне і асноўны штрых да партрэту краіны на фоне часу.

* * *

Горад Валомін, які прыветліва сустрэў мяне, беларускую журналістку, - Глыбокае ў Глыбокім: налічвае каля 50 тысяч жыхароў. Разьмяшчаецца ён, як кажуць палякі, у полі зроку Варшавы. Гэта ўтульны, дагледжаны гарадок з разьвітай інфраструктурай і сфэраю абслугоўваньня.

Валомін - адзін з сарака трох мястэчак, якія аб'ядноўваюцца ў рэгіён, дзе пражывае больш за 450 тысяч жыхароў. Ягоныя суседзі Радзымін, Легіянова, Осуф і дзесяткі такіх-жа маляўніча-непаўторных мясьцінаў багатых шчодрымі й добрымі людзьмі.

У рэгіёне 20 тысяч фірмаў з рознымі формамі ўласнасьці, шэсьць газэтаў. 180 тысяч жыхароў рэгіёну – прыхільнікі прыватных выданьняў, якім зьяўляецца і "Тыгоднік Валомінскі".

У Валоміне тры каталіцкія храмы й царква Сьв. Пятра і Паўла, якую арганізавалі праваслаўныя эмігранты.

Знакамітасьці Валоміна – сталярка, выбары якой вядомыя далёка за межамі краіны; музэй Соф'і й Вацлава Налкоўскіх; два прафэсыйныя тэатры і, вядома-ж, дзьве недзяржаўныя газэты. Працуе мастацкая галярэя.

Які вугалок рэгіёну ці горад не наведала-б, чула ад палякаў: "Гэта наша галоўная вуліца..., галоўнае прадпрыемства..., галоўнае сьвята..." Выраз "наша галоўнае ўжываўся зусім не для сувязі словаў у сказе. Гэтыя два словы сынонімы слову "гонар", з якім палякі распавядаюць пра сваю радзіму. І як радасна ўсьведамляць, што пачуцьцё гонару палякаў стымулююць не загады ўладных структураў. Пачуцьцё гонару – як паветра, без якога ня здольны жыць ніадзін чалавек, якім нельга надыхацца. І гэтае пачуцьцё расьце прапарцыянальна росту клопату дзяржавы пра кожнага свайго грамадзяніна.

## II. Адкуль родам патрыятызм?

*Ozegnaj Polsko! Zegnaj Chato mila,*
*O zegnaj ziemio, ktoras nas karmila,*
*Zegnaj sloneczko I gwiazdy zlociste...*
***Helena BARTOSZEWSKA***

У кожнага народу сваая Галгофа. І ўзысьці на яе, несучы нялёгкі крыж выпрабаваньняў, трэба з гонарам, каб нашчадкі, узгадваныя моцным духам, захавалі сьветлую памяць пра мінулае і змаглі пабудаваць бясхмарнае сёньня і сонечнае заўтра. Нездарма-ж вуліца Галгофы Народаў Польскіх у Радзыміне пачынаецца ад могілак, месца вечнага прытулку, і вядзе да цэнтру, дзе кіпіць, пеніцца жыцьцё.

Калі кораценька адказаць на вышэйзгаданае пытаньне, то патрыятызм родам з сэрца кожнага паляка, які паважае сваю краіну, які ведае кошт незалежнасьці й свабоды. Ён з розных куткоў краіны, дзе гістарычна прыпісаўся подзьвіг.

Патрыятызм – гэта кветкі да помнікаў нацыянальным героям; гэта знакамітыя месцы, векапомныя падзеі й даты, якія зьвязаныя з імёнамі самаахвярных сыноў і якія сталі лёсавызначальнымі для ўсяго народу; гэта натхнёная творчасьць, якая праслаўляе бацькаўшчыну; гэта самаадданая праца палякаў.

Час, поўны надзеяў і трывогаў за будучыню, пакінуў глыбокі патрыятычны сьлед у Канстытуцыі 3 траўня. Ён-жа перагаварыў 11 лістапада ў нацыянальнае сьвята – Дзень незалежнасьці краіны.

Сотні акрыленых сэрцаў трапечуцца ад гонару разам штогод 15 чэрвеня ля помніка Тадэвушу Касьцюшку, змагару за людзкую долю і волю. Памяць нізка схіляе галаву перад мужным Юзэфам Пілсудзкім – героем Вечнага часу.

Карэньчыкі патрыятызму пусьцілі парасткі ў сьвядомасьці й сэрцах юных палякаў з мястэчка Олеф, якія вучацца ў школе імя ксяндза Ігнація Скарупкі. Гэты мужны прапаведнік з малітваю выпраўляў у бой юных жаўнераў у час бітвы над Віслаю і верыў у перамогу. А зыход той крывавай вар'яды быў прадказаны Маткаю Боскаю, выяву якой убачылі многія ваяры 15 жніўня 1920 году. З таго часу ў гэты дзень палякі адзначаюць сьвята Маткі Боскай, Сьвята еднасьці Духу і Волі.

*працяг у наступным нумары*

Пакуль у краіне грамадзяне спрачаюцца, ці ёсьць гэтыя так званыя "чорныя сьпісы музыкаў", ніхто чамусьці не заўважае, што разрэклямаваны ў клюбе "Рэактар" канцэрт гурта NEURO DUBEL 1 красавіка так і не адбыўся, а куды яго перанесьлі, мала хто пасьпеў даведацца. Сарваўся і плянаваны на 22 красавіка канцэрт КРАМЫ. Зьнік з творчых даляглядаў легендарны ПАЛАЦ, а па радыё ў канцэрце па заяўках замест замоўленага вамі Вайцюшкевіча могуць пракруціць каго заўгодна. Як у анэкдоце: "Не выпендрывайцесь, спадар Астапчук і слухайце сваю ўлюбёную песьню "Валенкі"..." Дзякаваць Богу, хоць у Польшчы Зьміцер Вайцюшкевіч правёў у красавіку гастрольны тур Варшава-Вроцлаў-Кракаў, а лідэр NRM Вольскі ў сакавіку дык і ўвогуле сьвет аб'ехаў (Варшава-Беласток-Дэлавэр-Клірлэнд-Нью Джэрзы-Нью Ёрк). Цікава, калі нават недзяржаўная прэса паспрабавала асэнсаваць гэтыя падзеі, дык "дзяржаўны" (афіцыйны) пункт гледжаньня выказваўся davolі шырока і вольна, а вось вядомага беларускага рок-крытыка Вітаўта Мартыненку праігнаравала нават недзяржаўная "Музыкальная газета". "Занадта арыгінальныя ў цябе погляды, Віцёк. Нам ґазэту могуць з-за цябе закрыць", — сьціпла сказаў адзін з супрацоўнікаў прыватнага выданьня. Нават гучна самавызначаная як апазыцыйная "Народная воля" доўга й безвынікова "спрабавала" знайсьці месца для гэтых думак, замаўляючы то расейскі, то беларускі тэкст артыкула, але... так і не змагла. Толькі на інтэрнэт-сайце "Radio.tut.by" гэўны час напачатку сакавіка павісеў гэты твор, выклікаўшы нават рэагаваньні закранутых тут асобаў, але ня болей. Дык што-ж такога крамольнага хацеў сказаць Вітаўт Мартыненка, што яго баіцца нават афіцыйная апазыцыя? Мяркуйце самі...

# Дрыгва ўсё гэта

Жыцьцёвае незадавальненьне, бадай, заўсёды спадарожнічае чалавеку: нехта незадаволены беднасьцю, нехта — недастатковаю велічынёю багацьця, нехта — рэжымам у краіне, нехта — адносінамі да гэтага рэжыму... Сябе-б я аднёс акурат да гэтых апошніх. Асабліва пасьля прачытаньня некалькіх матар'ялаў у менскай «Музыкальной газете» наконт ужо дастаткова вядомай ініцыятывы лепшых рок-музыкаў краіны, якая атрымала назву «БУМ» («Беларуская Ўнія Музыкаў»).

Музыкі (N.R.M., ПАЛАЦ, NEURO DUBEL, КРАМА, POMIDOR/OFF, ZET, Вайцюшкевіч, DRUM ECSTASY), зрэшты, нічога асаблівага не зрабілі: проста, як сумленныя грамадзяне, нагадалі іншаму грамадзяніну, што ёсьць закон, у якім абумоўленыя два тэрміны пэўнай пасады. Самае цікавае, што яны, тыя музыкі, не рабілі ніякіх тэрарыстычных актаў, не пісалі падмётных пісьмаў ці ананімак... Нічога супрацьзаконнага: падалі заяўку, атрымалі дазвол і выступілі. А вось далей папёрла такое, нібыта яны забілі некага або публічна выказаліся: на ўсіх наклалі забарону на прафэсыю, усіх пазвальнялі з працы, усіх выкрэсьліваюць з рэпэртуару нават так званых незалежных радыёстанцыяў, а ў дзяржаўных газэтах цяпер не прыгадаеш ніводнуй з пазначаных вышэй назваў — артыкул проста ня выйдзе (сам сьведка).

Зрэшты, у краіне гадоў дзесяць ужо да гэтага прызвычаіліся, а наш раўнадушны народ пад правадырствам узгадаванай пры ўладзе апазыцыі стрывае і Сталіна, і Леніна, і Гітлера, і любых іншых узурпатараў, — абы вайны не было. Але што на гэта скажуць інтэлектуалы... альбо тыя, прынамсі, хто сябе такім лічыць?

І вось 3 лютага чытаю ў «Музыкальной газете» № 4 (2005) інтэрв'ю зь лідэрам гурта КНЯЗЬ МЫШКІН Леанідам Нарушэвічам. Выйшаў у іх у Маскве альбом пад роднаю да болю назваю «Кошык», паслухаў я яго і, натуральна, зацікавіла ўсё, што пра гэта пішуць. Ня думаў нават пра такое хуткае расчараваньне. Хоць музыка гурта такая неардынарная, спадар Нарушэвіч аказаўся такім банальным: так, ён прызнае, што ў краіне «зараз ва ўсім нейкі дэпрэсьняк, нейкая падвешанасьць — ня толькі ў музыцы, але і ўвогуле ў адчуваньнях, не відаць у жыцьці сьветлай будучыні», але калі нехта пачынае шукаць прычыны ды выйсьця з такой сытуацыі, Нарушэвіч адразу асуджае іх: «Што ў цябе ў галаве, калі ты йдзеш на плошчу, выступаеш з нейкімі палітычнымі заявамі, а пасьля гэтага чакаеш, што нармальна будзеш выступаць на дзяржаўных радыёстанцыях, табе будуць арэндаваць дзяржаўныя канцэртовыя залі?»

Спадар Нарушэвіч, а што такое «дзяржаўныя радыёстанцыі ды дзяржаўныя канцэртовыя залы»? Гэта-ж нашыя з вамі залі й станцыі, а ня нейкага адыёзнага грамадзяніна, які мяркуе, што яму закон ня пісаны. Калі гэтую сытуацыю пачала апраўдваць усялякая «дзяржаўная» папсень (Афанасьевы, Хлястовы, Дарафеевы), якая аатрымлівае свой хлеб у гэтага грамадзяніна (чытайце «Дождались, уж и душок пошел» у «МГ» № 7, 24.02.2005), я ўжо не зьдзівіўся, але вы, хто кшталту нацэлены ў цывілізаваны сьвет?!! Інтэрв'ю з вамі называлася «Князь Нарушевич (Мышкин)», але я, інтэрпрэтуючы той-жа вобраз Дастаеўскага, назваў-бы яго «Ідыёт князь Нарушэвіч». Рэч у тым, што калі грамадзянін нагадвае другому грамадзяніну пра літару закону — гэта не палітыка, а зарука суленнага жыцьця. А вось калі пасада аднаго грамадзяніна навісае над правамі другога — гэта ўжо маразм савецкай сыстэмы, ад якога і « дэпрэсьняк», і мы ад яго намагаемся пазбавіцца.

Восеньню мінулага году ў Менску быў па-зьверску забіты знакаміты музыка, лідэр ансамблю «Радавод» Міхась Пацук. Музыкі чамусьці не заўважылі сьмерці калегі, а суседзі, як сьведчыць міліцыя, чулі нейкія крыкі, калі яго забівалі, але падумалі: «Ён сам ведаў, на што ішоў, калі кватэру незнаёмым людзям здаваў». Гэта нібы цытаты з выказваньняў беларускіх «музычных інтэлектуалаў».

Мы ўсе тут — гадаванцы камсамола, таму наўрад ці ўразяць каго спасылкі на Біблію, але яшчэ раз нагадаю цытату: «І галадаць будзеце на ўрадлівай зямлі вы, што аддалі сьвятыню псам». Цела наша ня вечнае і калі-небудзь дакладна згніе, але душа — гэтаксама дакладна — не памірае, таму пасьля гэтага гніеньня будзе курчыцца ў кіпені роўна столькі, колькі заслужыла сваімі ўчынкамі. Калі ты сёньня плюнуў направа, дык будзь упэўнены, што заўтра такі-ж плявок прыляціць на твой твар зьлева. Таму варта падумаць пра тое, што ты робіш, што гаворыш, каго абараняеш у гэтым жыцьці. Загрузшы ў нязьменнай гіерархіі каштоўнасьцяў бытавізму, нельга прэтэндаваць на правы стварэньня інтэлектуальнага прадукту. І я ўжо не дзіўлюся, што нашы музыкі заўсёды на падхопе нават у расейскіх калегаў. Тыя хоць думаюць, «как им обустроить Россию»...

*Вітаўт МАРТЫНЕНКА*

**На дымку: музычныя крытыкі В. Мартыненка (справа) і А. Мяльгуй.**

**У Беларусі рыхтуецца да друку музычная энцыкляпэдыя "100 альбомаў беларускага року і... ня толькі". Гэта 600 старонак тэксту з малюнкамі пра СОТНІ беларускамоўных музычных выданьняў, што выходзілі па ўсім сьвеце. Сюды ўвайшла яшчэ сотня нярокавай музыкі: інструмэнтальная, нью-эйдж, джаз, клясычная, бардаўская...**

**Заклікаем чытачоў "Беларуса" паспрыяць справ ахвяраваньнямі ды зрабіць свой сьціплы ўнёсак ў нацыянальную мас-культуру.**

**Ахвяраваньні дасылайце, калі ласка, на адрас рэдакцыі "Беларуса". Чэкі выпісвайце на імя *BIELARUS* з адзнакаю "100 альбомаў...".**

**Ахвярадаўцы будуць адзначаныя ў кнізе, а таксама атрымаюць асобнікі гэтай энцыкляпэдыі.**

# Беларуская музыка і песьня ў Нью Ёрку

У сакавіку сёлета ў Інстытуце Сучасных Тэхналёгіяў прайшоў традыцыйны веснавы канцэрт, ладжаны Радаю Славянскіх Спадчынаў Амэрыкі. Гэтым разам апрача славянскіх танцавальных, музычных і вакальных групаў, як беларусаў, палякаў, украінцаў, расейцаў, славакаў, сэрбаў, македонцаў і баўгараў, былі італійцы й грэкі. Славацкі гурт, апрача сваіх танцаў, выканаў нізку цыганскіх песьняў і танцаў.

Выступы былі на высокім мастацкім узроўні, хоць выкананьне сягала ад чыста народнага жанру да стылістычна харэаграфічнага. Напрыклад, польскі гурт выканаў ўрывак з опэры Манюшкі "Страшны двор", італійцы пад музыку "тарантэлы" паказалі сярэднявечны рытуал "ачышчэньня ад хваробы "тарантізмо", а ўкраінцы закончылі цэлую праграму надзвычай прафэсыйным выкананьнем шэрагу ня толькі сваіх танцаў, але нават, паводле прысутных музычных экспэртаў, часткова выкарыстаўшы беларускую мэлёдыю "Полькі-Янкі".

Беларускі ўдзел у канцэрце прайшоў у выкананьні двух салістаў, якія спэцыяльна прыехалі з Канады стараньнямі спн. Аллы Орсы-Романо, адказнай за беларускую праграму ў Радзе Славянскіх Спадчынаў Амэрыкі. Гэта былі сьпявачка Сьвятлана Літвінава і баяніст Аляксандар Севасьцян.

Сьвятлана Літвінава шмат гадоў была салісткаю дзяржаўнага хору імя Генадзя Цітовіча ды сьпявала яшчэ з маленства ў сямейнай атмасфэры на Магілёўшчыне. У хор Сьвятлана прыйшла, калі ёй было сямнаццаць гадоў, яе праслухоўваў яшчэ сам Цітовіч. На канцэрце Сьвятлана дасканала выканала шэраг вясёлых народных песьняў — "Цячэ вада", "Мае вочы чорныя" і "Лявоніху" пад акампанімэнт Аляксандра Севасьцяна.



*Беларусь на канцэрце рэпрэзэнтавалі Сьвятлана Літвінава і Аляксандар Севасьцян.*

Малады баяніст захапіў аўдыторыю сольным выкананьнем цэлага шэрагу беларускіх мэлёдыяў, названага "Беларускай фантазіяй". Тут варта адзначыць, што кожны нацыянальны гурт на канцэрце меў сваіх прыхільнікаў, і яны як раз давалі найгучнейшыя воплескі сваім выканаўцам. Воплескі для віртуознага выкананьня Аляксандра гучэлі бяз розьніцы па цэлай аўдыторыі.

Крыху з біяграфіі й цяперашняй дзейнасьці Аляксандра Севасьцяна. Паходзіць ён зь Менску, дзе пачынаў вучыцца ў музычнай вучэльні, пасьлей працягнуў навуку на шэсьць гадоў у Акадэміі Музыкі імя Гнесіных у Маскве. У Таронта прыехаў тры гады таму і цяпер працягвае сваю музычную кар'еру ў канадыйскім музычным квартэце выступленьнямі па цэлым сьвеце. Як саліст, ён браў удзел у шэрагу міжнародных канцэртаў, як у Эўропе, гэтак і ў Амэрыцы, займаючы першыя месцы. Летась меў сольны выступ у Канзас Сіты й пад канец году ў квартэце ў Мэтраполітан Музэі Мастацтваў у Нью Ёрку.

Аднак ня гледзячы на замежную адукацыю і цяперашнюю замежную музычную дзейнасьць, Аляксандар дасканала гаворыць па-беларуску. Вось як ён адказаў Ганьне Сурмач у праграме Радыё Свабода "Беларускае Замежжа": "Я — беларус па нацыянальнасьці, маю беларускі пашпарт, і я павінен размаўляць па-беларуску". На пытаньне, што яшчэ хацеў-бы зрабіць, ён адказаў, што хоча адведаць Беларусь і сыграць 10-15 канцэртаў у розных гарадох. На падставе ягонага выступленьня ў Нью Ёрку можна сьмела сказаць, што ў Беларусі ягонае мастацтва ігры на баяне будзе прынятае з захапленьнем.

*Вячка СТАНКЕВІЧ*

# Наша фанатэка

## Беларусізацыя джынсавай фарбы

**"Indiga"** – *"Дні", Мн., 2004, "БМAgroup".*




З уласнага вопыту дасьведчанага філяфаніста магу сказаць, што кожнай музычнай навінцы наканавана на рынку два тыпы адносінаў: адныя патэнцыйныя спажыўцы проста любяць праслухоўваць у крамах усё нязьведанае, а другія, якіх большасьць, будуць апантана шукаць на вокладцы хоць якіх-небудзь апазнавальных знакаў, што маглі-б дапамагчы распазнаць ім, чаго варты гэты прадукт (знаёмыя прозьвішчы каго-небудзь з музыкаў, згадкі з прэсы, фэстывальныя посьпехі). Ад гэтага залежыць і посьпех фанаграфічнай навінкі. Гурт "Indiga" мае ўсе шанцы на ўвагу абодвух катэгорыяў слухачоў, але для другіх усе крытэры былі чамусьці моцна прыхаваныя, і спадзявацца можна толькі на актыўных чытачоў музычнай прэсы.

Так, прэса нямала пісала аб самым галоўным – аб упэўненым посьпеху "Indiga" на XIV фэстывалі "Басовішча" ў Польшчы (2003), калі гурт выйграў права запісу ў дыхтоўнай студыі Польскага Радыё ў Беластоку "Rembrant". Шкада толькі, што на вокладцы вельмі сціпла, нават непрыкметна пазначана, што альбом "Дні" й зьяўляецца прадуктам тае студыі, хоць месца на трэк-ліст альбому музыкі не пашкадавалі ажно тройчы.

Зрэшты, трэк-ліст сапраўды вельмі цікавы. Ён нібыта як вучнёўскі расклад на тыдзень: панядзелак – "Тры сонцы", аўторак – "Вер мне", серада – "Начны шпацыр", чацьвер – "www", пятніца – "Гэта ня важна", субота (о! а што-ж у Русі на выходныя) – "Танга на краі", нядзеля – "Людзі". Як усё вельмі лягічна ды канцэптуальна! Адразу адчуваецца рука небанальнага майстра.

А вось тут і прагнеш знайсьці знаёмыя імёны, але-ж натыкаешся на непрадбачаныя абставіны: бліскучы басіст Лёша Паўловіч (экс-"Ulis", экс-"Новае неба"), які сьпярша акурат і ўразіў усіх на адборачным туры таго самага "Басовішча", пасьпеў пакінуць калектыў і нават на студыйную сэсію ў Польшчы ня езьдзіў. Затое месца ягонае заняў ня менш вядомы й каляровы Зьміцер Астроўскі (экс-"Імпэт", экс-"Partyzone"). Сымбалічна, але ўсе названыя калектывы зь ягоным удзелам станавіліся лаўрэатамі "Басовішча", але ўсіх ён пакідаў, бо ні "Імпэт", ні "Partyzone" не сьпяшаліся скарыстацца сваім дыхтоўным прызам ("Partyzone" толькі праз два гады, у 2004 даехаў да студыі "Hertz", каб пачаць працу над альбомам, хоць студыя тая пасьпела ўжо адыйсьці ад "Басовішча"), а "Indiga" ўжо праз месяц пасьля фэсту давала інтэрв'ю Польскаму радыё, як ім працавалася ў студыі "Rembrant" (так што ёсьць надзея, што з "Indiga" ў Астроўскага ўсё будзе іначай).

Па-за тым у гурце граюць Зьміцер Дзямідаў (гітара) і Андрусь Ганчарык (бубны). Ну і нельга-ж забываць пра фронтвумэн калектыву – Русю, якая ў сталічнай рок-кампаніі ня першы год хаўрусуецца. Нават на дыску "Ґенэралы айчыннага року", куды пасьпела трапіць панядзелкавая песьня "Тры сонцы", напісана: "Такой Русі яшчэ ня чулі ў Беларусі". Якой яна была, па шчырасьці, ня памятаю, а вось на дыску яна ўражвае дынамізмам сваіх яўна не "унц-бунцавых", а хутчэй псыхадэлічных кампазыцыяў. Для тых, хто любіць параўнаньні з замежнымі аналягамі, магу прыгадаць толькі польскую рок-дзіву мяжы тысячагодзьдзяў Юстыну Стэчкоўску, якая захапіла славутую фірму "EMI". Вось толькі чаму Руся так настойліва хаваецца за псэўдонімам? Для дасьледчыкаў пакіну хоць адну згадку, што Руся – гэта не Руслана, а Маруся, а ў падзяках не пакіньце па-за ўвагай невядомае мэляманам прозьвішча Сьвятланы Шукюравай, бо гэта Марусіна маці.

Дарэчы, астатнія падзякі будуць зразумелыя кожнаму, бо акурат у іх знаходзяцца самыя пазнавальныя для шырокіх масаў прывабныя фішкі: Віктар Маўчанаў і Вячаслаў Шарапаў у сваёй студыі дапамагалі многім вядомым музыкам у справе гукавой канцэптуалізацыі іхніх прадуктаў, пра Аляксея Паўловіча мы тут ужо згадвалі, пра Міхала Анемпадыстава ды Касю Камоцкую зараз згадаем, Кірылу Насаева ведае кожны прыхільнік камэрнага хору "Унія", як Андрэя Хадановіча – кожны гадаванец адзінага ў Беларусі беларускага ліцэю, ну а згаданае "Басовішча" – гэта ўвогуле сьвятыня для ўсіх беларускіх рокераў.

Што да Касі з Міхалам, дык Руся дзякуе ім за песьню "Цэпэліны", кавэр паводле якое яна зрабіла ў захапленьні ад музыкі легендарнага "Новага неба" (а вось тут трэба насьцярожыцца, бо ў альбоме "Дні" ўжо ёсьць поўны тыдзень).

Як не прыгадаць тут славутую песьню геніяльных "Бітлоў", якая так і называецца – "Eight Days A Week", перасьпяваную й славутымі "Procol Harum", і процьмай іншых гуртоў розных краінаў і народаў. Вось і ў "Indiga" іхняя перасьпеўка пайшла акурат восьмым днём тыдня гэтага надзвычай канцэптуальнага альбому "Дні".

Уразлівае мастацкае ўвасабленьне гэтай канцэпцыі знаходзім на відарысе самой вокладкі. Асабіста мне ён нагадвае верш Яна Кандратовіча "Дні, як запалкі тухнуць". Азірнемся калі-небудзь на пройдзены шлях, а перад вачыма – жахлівая карціна засохлых парасткаў. Ня дай Бог!

Гэткі відовішчны здымак Руся знайшла ў інтэрнэце, але ня проста па-пірацку скачала яго для сваіх патрэбаў, а выйшла на прамы кантакт з аўтарам і атрымала афіцыйны дазвол.

Напрыканцы – характэрная згадка наконт назвы. Першыя публікацыі ў прэсе пра гурт, мо хто памятае, пазначаліся больш традыцыйным варыянтам найменьня індыянскага джынсавага фарбавальніка – "Indigo", а вось-жа зьявілася чамусьці "Indiga"? Чаму? Ды той-жа інтэрнэт падказаў, што па сьвеце распладзілася столькі "індыгаў", што заблытацца можна. А выйсце даў і вопыт "Басовішча", і практыка беларускамоўнай творчасьці, і самая моц роднамоўных традыцыяў, якая любога экзатычнага Celentano, "Cinzano", "Indigo" лёгка пераробіць у Чэлентана, "Чынзана", "Індыга", надаючы ім пазнавальныя свойскія рысы.

***Вітаўт МАРТЫНЕНКА***

# Новая кніга

*Мы любім даўнія паданьні,*
*Быліцы сівых песьняроў.*
*Няхітры іх апавяданьні*
*Аб справах мінулых часоў.*
*Нам даспадобы чэрпаць веду*
*Гісторыі з пажоўклых кніг;*
*З рукапісаў пра быт прадзедаў*
*Даведацца, што сьведчыць мніх.*

***Ул. Жылка***

Зянон Пазьняк, знайшоўшы ў кнігазборы беларускае царквы "Парсіваль" у перакладзе Л. Галяка (выданьне 1947 году) і, відаць, упершыню дачуўшыся пра яго, перадрукаваў тэкст у "Беларускіх Ведамасьцях" з уласнаю прадмовай, дзе сярод іншага пісаў: "Паданьне пра Сьвяты Грааль яшчэ ў XII-XIII стагодзьдзях выкарыстоўвалася ерэтыкамі, алхімікамі, тампліерамі, пазьней (у XVIII ст.) – масонамі і ўвогуле шарлатанамі для сымвалізацыі сваіх паняцьцяў. У гэтай справе ўзьнікла мноства псэўданавуковых аматарскіх "дасьледаваньняў", пагрунтаваных на чутках, меркаваньнях і дадумваньнях ды на цытаваньні іншых такіх жа "дасьледваньняў", заснаваных на чутках і меркаваньнях. Гэта ёсьць пласт псэўданавукі (гэтак жа, як графаманства ў літаратуры, кіч у мастацтве, маскультура ў творчасьці і т. п.)".

Наагул дзіўна, а для кандыдата мастацтвазнаўства (менавіта такім званьнем падпісана прадмова) дык зусім недаравальна валіць да аднаго ерэтыкоў, тампліераў, алхімікаў. І чаму "ерэтыкі", калі легенда пра Сьвяты Грааль цалкам кананічная й прызнаная Касьцёлам?

Але тое дзгугасна, і да новай кнігі пад назовам "Вольныя муляры ў беларускай гісторыі. Канец XVIII-пачатак XX ст." наўпрост дачыненьня ня мае. Кніга-ж пра тых, каго З. Пазьняк назваў шарлатанамі – масонаў, а калі паймення – пра караля Станіслава Аўгуста, правадыра антырасейскай апазыцыі Ігнацыя Патоцкага, Міхала Сабескага, пісьменьніка Яна Ходзьку, філёлага Гродзка Эрнэста, мастака Яна Рустэма, дзекабрыста Канстанціна Ігельстрома, паэта Тамаша Зана, кнігавыдаўца Юзафа Завадскага, прэфэкта гарадзенскай школы Адукацыйнай Камісіі ксяндза Тадэвуша Юрэвіча, Адама Міцкевіча, братоў Луцкевічаў, Вацлава Ластоўскага, Бранiслава Тарашкевіча ды яшчэ даўжэзнага сьпісу дзеячоў Вялікага Княства Літоўскага й Беларусі.Кніга па-сапраўднаму навуковая, не аматарская.

Выхад яе патасна вітаў на радыё "Свабода" С. Дубавец: "Сталася так, што найбольш значныя кнігі на тэмы беларусазнаўства выходзяць у нас сёньня не дзякуючы дзяржаўнай палітыцы, а насуперак ёй. І рэч ня толькі ў тым, што прыватныя ініцыятывы ўсяляк падкрэсьліваюць адметнасьць сваёй нацыі й даюць магчымасьць развівацца беларускай думцы й беларускаму слову, тады як дзяржаўная ідэалёгія ўсяляк нівэлюе нацыянальную спэцыфіку, а мову па-просту ігнаруе. Гэтыя адрозьненьні вонкавыя, яны – вынік. Сутнасьць праблемы ў іншым, у тым, што прыватныя ініцыятывы скіраваныя на разбурэньне тых вобразаў ворага, якія стварае і падтрымлівае ў масавай сьвядомасьці дзяржаўная ідэалёгія. Вы скажаце – навошта нам ворагі? А для таго, каб увесь народ знаходзіўся ў баявой гатоўнасьці. На мове папулізму гэта называецца парадкам у краіне, а на мове рэальнасьці гэта – аўтарытарызм, найбольш просты спосаб кіраваньня краінай і народам ".

Што да абыякавасьці, калі не варожасьці афіцыйнай Беларусі да падобных праектаў, дык тое ня нова якіх ужо гадоў дзесяць. І варта было-б карэспандэнту "Свабоды" зьвярнуць увагу на тое, дзякуючы-ж якім установам падобныя кнігі выдаюцца. Укладальнік кнігі ў прадмове згадаў: дзякуючы дапамозе Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва. А вось пра ворагаў – трапна і, на жаль, надзённа. Шукаем, вінавацім у сваіх праблемах і няўдачах: хто - "амэрыканскія даляры", хто – "агэнтаў КГБ".

Доктар гістарычных навук Алесь Смалянчук, чыімі намаганьнямі й выйшаў зборнік артыкулаў (а па-сутнасьці манаграфічнае дасьледаваньне) за аўтарствам М. Сакаловай, В. Шведа, Ю. Гардзеева, С. Рыбчонка ды іншых, у прадмове піша: "Вольнае мулярства заўсёды было ахутана покрывам таямніцы, якая ў вялікай ступені спрыяла нараджэньню "чорнай легенды" пра масонства. Гэтая "легенда" найчасьцей праяўляецца ў розных варыяцыях вядомай канцэпцыі "тайнай змовы" (або супраць усяго чалавецтва, або супраць асобна ўзятай нацыі-дзяржавы)". Дасьледчыкі, гаворыцца ў прадмове далей, не імкнуліся зьмяніць адную легенду на іншую; яны толькі паспрабавалі зразумець месца вольных муляроў у нашай гісторыі.

Кніга прапаноўвае як арыгінальныя досьледы – пра вольнае мулярства эпохі Асьветніцтва, пра масонства як сацыяльна-культурную практыку XVIII-XIX ст., пра лёжы на землях Беларусі, пра адраджэньне вольнага мулярства напачатку XX ст., гэтак публікуе й каштоўныя дакуманты - "Канстытуцыю Андэрсана, альбо Старажытныя запаветы вольнага муляра" (1723 г.), "Статут Вялікага ўсходу Каралеўства Польскага й Вялікага Княства Літоўскага" (1784 г.), рэдкія здымкі, выявы, напрыклад, пячатак і знакаў масонскіх лёжаў на беларускіх землях, а што асабліва важна – сьпісы беларускіх масонаў (толькі вось зноў кніга ня мае іменнага паказьніка; якая прыкрасьць!), "Храналёгію вольнага мулярства на Беларусі", а таксама "Слоўнік абраных тэрмінаў, паняцьцяў, сымбаляў".

Кніга раскрывае невядомыя абсалютовай бальшыні - ня толькі паспалітага люду, але й навукоўцам, спэцыялістам свайго фаху, – старонкі гісторыі, факты, падзеі, і тым распачынае новую для нас, але гэтак папулярную ва ўсім сьвеце тэму – вольных муляроў ды іхнае ролі ў грамадзтве. Мо з часам які беларускі пісьменьнік зацікавіцца масонамі, і мы атрымаем твор ня менш захапляльны за "маскультурны" "Код Да Вінчы".

Варта дадаць таксама, што да вольнага мулярства належалі й нашыя эміграны. Ёсьць зьвесткі, што ім быў Я. Чарапук-Змагар, дакладна ўваходзіў у масонскую лёжу й займаў там высокую пазыцыю Ул. Бакуновіч. Цалкам магчыма, што ёсьць яны сярод беларусаў і сёньня.

Тыя, хто зацікавіліся вольным мулярствам, могуць наведаць Вялікую Лёжу ў Нью Ёрку па адрасе **71 West 23rd Street** (***http://www.nymasons.org/***). Удзень там адбываюцца экскурсіі.

Напрыканцы - пра новую публікацыю эзатэрычных перакладаў Л. Галяка. У наступным томе "Запісаў БІНІМ", № 29 будзе зьмешчаны невядомы пераклад раману Жазэфа БЕДЗЬЕ "Трышчан ды Ізота", адшуканы некалі Зораю Кіпель, а цяпер прафэсыйна падрыхтаваны да публікацыі Надзеяй Старавойтавай. Выхад "Запісаў" плянуецца на восень.

***Навум ГАЛЯШЭВІЧ***

# Сьв. пам. Барыс РАГУЛЯ



21 красавіка 2005 году ў Лёндане, Антарыё, Канада, памёр Барыс Рагуля. Доктар мэдыцыны, заступнік Старшыні Рады БНР, старшыня Сусьветнай арганізацыі "Канфэрэнцыя Вольных Беларусаў", дзеяч у Канадыйскім Фондзе Дапамогі Ахвярам Чарнобылю ў Беларусі, былы старшыня Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады (ККБК), выдавецкага фонду беларускіх падручнікаў пры ККБК, Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Канадзе, дзейны сябра Згуртаваньня Беларусаў Канады й ахвярны парафіянін БАПЦ Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта. Было яму 85 год.

Першы раз сустрэла я сьв. памяці Барыса Рагулю недзе ў канцы 1945 году ў беларускім лягеры Ватэнштэт, што ў ангельскай зоне Нямеччыны... Было нейкае сьвята, ці ня Новы год. За застольнай бяседай зьявіўся незнаёмы, жывы, энэргічны малады, як і ўсе мы, чалавек, які заявіў нам: "Чаго вы тут сядзіце ў лягеры, чаму ня йдзеце вучыцца?". "Мы хочам вучыцца, -кажу яму, - але немагчыма дастацца на ўнівэрсытэт. Туды прымаюць перш за ўсё сваіх нямецкіх былых жаўнераў, якія толькі што вярнуліся з вайны."

- На ўнівэрсытэце ў Марбургу ёсьць месцы для беларусаў! Ці хто з вас паехаў-бы ў Марбург? – кажа незнаёмы.

Марбург быў у амэрыканскай зоне акупацыі Нямеччыны, за мяжою... Аказваецца, інтэлігентны, спрытны, харызматычны студэнт мэдыцыны Барыс Рагуля выстараўся на ўнівэрсытэце Марбургу месца ня толькі для сябе і свае жонкі Людмілы, а і 30 месцаў для беларусаў.

Я паехала ў Марбург. І так, дзякуючы Барысу Рагулю, ягонай дбайлівасьці пра беларускія справы, пра беларускіх студэнтаў, змагла прадоўжыць замяжою ўнівэрсытэцкія студыі ды пасьля здабыць прафэсыю.

У нашай даволі вялікай, вясёлай студэнцкай арганізацыі, старшынём якое быў Барыс Рагуля, былі сябры розных поглядаў і перакананьняў. Былі БНР-аўцы – крывічы й БЦР-аўцы – зарубежнікі. Ды розьніцы ў паглядах не перашкаджалі ні навуцы, ні ў складаньні экзаменаў, ні ў багатым сяброўскім жыцьці. Усе мы былі беларускія патрыёты. Усе мы йшлі пад бел-чырвона-белым штандарам і старадаўняя крывіцкая Пагоня біла ў сэрцы нашыя, біла мячамі, не давала чужынцамі быць. І ўсіх нас яднала нашая родная беларуская мова, бо "Міласьцівы Бог" нас, як і Францішка Скарыну, "з таго языка на сьвет пусьціў". Жыве беларуская мова – жыве беларуская душа – беларуская нацыя.

Праз два ці тры гады прайшла "вэрунг", рэформа грошай. З 10-х нямецкіх марак зрабілася толькі адна марка. Настаў цяжкі час для нас, беларускіх студэнтаў. Ды "Міласьцівы Бог" меў над намі апеку. Газэта "Бацькаўшчына" паведамляе, што ёсьць магчымасьць дастаць стыпэндыі з Ватыкану. Толькі трэба ехаць вучыцца на ўнівэрсытэт ў Лювэн, у Бэльгіі. Ізноў наш Барысм Рагуля ў паразуменьні з Радаю БНР, яе старшынём інж. Міколам Абрамчыкам, у цэнтры справы атрыманьня стыпэндыяў марбургскім студэнтам ды арганізацыі паездкі ў Лювэн. І так паехалі ў Лювэн амаль усе беларускія студэнты з Марбургу. Засталася там канчаць студыі толькі я, бо была на апошнім годзе дантыстыкі, рыхтавалася да выпускных экзаменаў. Застаўся і Лявон Трусэвіч, які быў на перадапошнім годзе таго-ж факультэту.

У справе арганізацыі беларускай сэкцыі на Радыё "Вызваленьне", цяпер Радыё "Свабода", ізноў прычасныя былі беларускія студэнты, а між імі Барыс Рагуля гуляе ці не адну з галоўных роляў.

У 1997 годзе перад 22-й Сэсіяй Рады БНР др. Барыс Рагуля, як заступнік Старшыні Рады БНР, едзе з Канады ў Вільню на зьезд Эўрапейскага сэктару Рады БНР, дапамагае яго арганізаваць і дае на ім справаздачу зь дзейнасьці Рады БНР на выгнаньні. На 22-й Сэсіі Рады БНР ў Нью Ёрку др. Барыс Рагуля быў пераабраны як заступнік Старшыні Рады БНР і быў ім да сьмерці.

І так, Дарагі Сябра, шлях Твой змагарны за дзяржаўную незалежнасьць Беларусі на гэтым сьвеце закончыўся, але дух Твой жыве ў плёнах Тваё працы, Тваіх асягненьняў, жыве ён у Тваіх дзецях, унуках і нашчадках, якім Ты пакінуў запавет "Сьцяг свой высока трымай!"

Бывай, дарагі Барыс! Вечная Табе памяць!

Ад імя беларускага грамадзтва Канады й сябе асабіста выказваю шчырыя спачуваньні жонцы памерлага Людміле, дзецям Рагнедзе, Вітаўту, Уладзімеру, Андрэю і іхнім сем'ям.

***Др. Раіса ЖУК-ГРЫШКЕВІЧ***

# Сьв. памяці ЯНКА АЗАРКА

## (15.11.1922 – 9.04.2005)

Адыйшоў раптоўна з жыцьця Янка Азарка, заслужаны даўгагадовы грамадзкі дзеяч, адзін з заснавальнікаў Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, старшыня сэктару Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ў штаце Нью Джэрзі, сябра ўправы Задзіночаньня Беларускіх Вэтэранаў, актыўны прыхаджанін царквы Жыровіцкай Маці Божай у Гайленд Парку. Пакінуў у глыбокім смутку жонку Марыю, сына Юрку з жонкай Нонай і сынамі Крыстафорам і Маркам, дачку Ірэну ды шматлікіх сяброў-супрацоўнікаў.

Пахаваны на Беларускім могільніку ў Іст Брансўіку.

Вечная яму памяць.

# Сьв. памяці Алена ГРЭБЕНЬ

## (30.10.1923 – 21.03.2005)

# Сьв. памяці Мікалай ГРЭБЕНЬ

## 22.05.1922 – 23.03.2005

Пасьля доўгай хваробы адыйшлі амаль адначасна ў вечнасьць жонка з мужам Алена (з роду Герасімовічаў) і Мікалай Грэбені, шчырыя й шчодрыя патрыёты, даўгагадовыя актыўныя ўдзельнікі беларускага грамадзкага й рэлігійнага жыцьця, прыхаджане царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт Рывэры. Пакінулі ў глыбокім смутку дачку Аляксандру Гоз з мужам Дэвідам, сыноў Леаніда з жонкай Данутай, Юрку з жонкай Памэлай, Віктара з жонкай Дыянай, Аленінага брата Юрку Герасімовіча і чатырох унукаў.

Пахаваныя ў той самы дзень на Беларускім могільніку ў Саўт Рывэры.

Вечная ім памяць.

# Сьв. пам. Мікалай АБРАМЧЫК

## (1.05.1922 – 20.03.2005)

Пасьля працяглых недамаганьняў адыйшоў у вечнасьць шматгадовы сябра Задзіночаньня Беларускіх Вэтэранаў у штаце Нью-Джэрзі, заслужаны былы падафіцэр Беларускага Войска ў часе Другой сусьветнай вайны, колькігадовы супрацоўнік адміністрацыі газэты "Беларус", прыхаджанін царквы Жыровіцкай Маці Божай у Гайленд Парку. Пакінуў у глыбокім смутку жонку Анну, замужнюю дачку Ніну Мазур з мужам Рычардам і дзецьмі Адамам і Крыстынай, сясьцёр Ніну й Тамару ў Беларусі. Пахаваны на Беларускім могільніку ў Іст Брансўіку, Н. Дж.

Вечная яму памяць!

# Ліст-зварот да выдаўцоў "Беларускай Думкі"

Часапіс "Беларуская Думка" мае даўгую й паважную гісторыю. Ён выдаецца ад 1960 году, у рэдакцыйную калегію ўваходзілі такія ведамыя дзеячы, як Л. Галяк, Янка Золак, М. Лапіцкі, І. Касяк, М. Шчорс. Сёньня часапіс ачольваюць Міхась Кавыль ды Жорж Навумчык. Яны намагаюцца працягваць традыцыю, трымаць часапіс на узроўні – і вялікі дзякуй ім за тое! – але відавочна, што часу, аўтараў, матар'ялаў, фінансаў ды, што хаваць, сілаў не стае. Гэта сьцьвердзіў і апошні нумар "Беларускай Думкі", што нядаўна патрапіў да чытача. Ён распачынаецца "навіною" 1995 году, а сам складаецца амаль цалкам з перадрукаў – быццам на гэта нам мала "Беларускага дайджэсту", што падмятае ўсё, не зьвяртаючы асаблівай увагі на стыль і правапіс, пагляды ды ідэі самых розных газэтаў зь Беларусі.

І вось, пры ўсёй павазе да працы рэдакцыйнай калегіі, найперш да шаноўнага спадара Ж. Навумчыка, падумалася: ці варта высільвацца ды працягваць выдаваць падобны часапіс? Мо паважаныя выдаўцы й рэдактары "Беларускай Думкі" пайшлі-б па шляху "Вестак і Паведамленьняў" БАЗА: спыніць сваё асобнае выданьне й далучыцца да газэты "Беларус"? Газэта, што выходзіць кожны месяц, магла-б рэгулярна паведамляць пра навіны з Саўт Рыверу, парахвіі, друкаваць інфармацыю – адным словам, адводзілася-б столькі месца, колькі-б трэба было; грошы-б заашчаджаліся, а што самае галоўнае – агульныя намаганьні-б скіроўваліся на ўмацаваньне й паляпшэньне адзінай рэгулярнай газэты эміграцыі. Бо, бачыць Бог, яднаньне й вытрываласьць нам вельмі патрэбныя. Як і якасьць.

***А. Любі***

# АБВЕСТКІ

Для дасьледчыцкай працы, прысьвечанай гісторыі газэтаў на эміграцыі, не стае нумара газэты "Бацькаўшчына" №14 за 1949 год і асобніка газэты "Беларус" за студзень 1995 году. Калі-б хто меў непатрэбныя яму асобнікі або мог пазычыць іх на які час - калі ласка, паведамце ў рэдакцыю "Беларуса".

* * * * * * *

У нядзелю, 22 травеня 2005 году, у Гайленд Парку, Нью Джэрзі, у царкве Жыровіцкай Божай Маці Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы адбудзецца парафіяльнае сьвята з урачыстым набажэнствам і абедам. Будзе разыграная лятарэя.

Кошт абеду: дарослым - $17; студэнтам і дзецям старэйшым за 12 гадоў - $10, дзецям малодшым за 12 гадоў — бясплатна.

Парафіяльная рада і сьвятар запрашаюць на сьвята ўсіх жадаючых.

* * * * * * *

Гульні футбольнага турніру, які павінен быў адбыцца ў Філядэльфіі 8-га траўня 2005 году пераносяцца на 26 чэрвеня. Месца правядзеньня будзе паведамлена пазьней.

* * * * * * *

Жадаючыя замовіць наступныя запісы на *DVD*:
- 22-я Сустрэча Беларусаў Паўночнай Амэрыкі 31 жніўня - 2 верасьня 1996 году ў Клііўлендзе (працяглась 2 гадз. 35 хв.), кошт $15;
- песьні беларусаў Кліўленду (1990-96) $10;

Зьвяртайцеся да сп. Міхася Калядкі на адрас
***Michael Kalyadko***
***14080 Indian Creek Dr***
***Middleburg Hts, OH 44130***
E-mail: ***mkoly92828@wideopenwest.com***
тэлефон: ***(440) 234-4601***
Кошты пададзеныя без уліку перасылкі.

# КУПАЛЬЛЕ

**Дарагія сябры! Давайце разам адзначым нашую прыгожую традыцыю Купальля.**

**Калі:** 26-27 чэрвеня 2004 году.
**Дзе:** Рэзэрвацыя ***Ward Pound Ridge*** ў ***Cross River, NY***.
**Транспарт:** цягніком са станцыі ***Grand Central*** да прыпынку ***Katonah***. Гэта прыкладна гадзіна язды цягніком ад Магэтану на ***Metro North, Harlem Line***.
**Кошт:** **$25** дарослым, **$10** дзецям меншым за 12 гадоў.
Чэкі выпісвайце на ***Mr. & Mrs. Ryzy*** з адзнакаю "***Купальле***". Калі ласка, шліце вашыя замовы разам з формаю, надрукаванаю ніжэй на адрас:
***Piotr & Lena Ryzy***
***20 Old Locust Avenue***
***Cortlandt Manor, NY 10567***
**Кантакты:** **Пётра** і **Алена РЫЖЫЯ**, хатні тэл. **(914) 734 - 8115**, маб. **(914) 522 - 0742**, электронная пошта: ***LenaBelarus@aol.com***
**Што будзе:** купальскія песьні й танцы, спартовыя спаборніцтвы й гульні, гатаваньне страваў (прыносьце ежу, грылі там будуць).

Захапіце з сабою спальныя мяшкі, палаткі, ежу, напоі й г. д., а таксама дастаткова фотастужкі, каб хапіла на ўсе дні адпачынку.

Арганізатары забясьпечаць дровы для вогнішчаў і вуглі для грыляў.

**Вашае імя:** ____________________

**Лік дарослых ($25 за кожнага): _____, дзяцей ($10): ______ Усяго дасылаю: $ ______**

**Ваш тэлефон:** ____________ **E-mail адрас:** ____________

**Ваш паштовы адрас:** ____________________

**Ці трэба Вас забіраць з прыпынку цягніка?** __________ **Калі?** __________

**Ці хочаце, каб Вам даслалі поштаю мапу з інструкцыяй, як даехаць да парку?** ______

# ПАДПІСКА

## на выданьні зь Беларусі на другую палову 2005 году

### З дасылкаю зь Беларусі ў замежжа:

| | Назва, выдавец, мова | Пэрыядыч. друку | Кошт, $ |
|---|---|---|---|
| Газэты: | Наша Ніва, прыватнае, беларуская | 4 на месяц | 70 |
| | Наша Слова, ТБМ, беларуская | 4 на месяц | 40 |
| | Новы час, ТБМ, беларуская | 2 на месяц | 40 |
| | Культура, дзяржаўная, беларуская | 4 на месяц | 70 |
| | Літаратура і Мастацтва, дзярж., бел. | 4 на месяц | 60 |
| Часапісы: | Arche, прыватны, беларуская | 3 на 6 месяцаў | 30 |
| | Дзеяслоў, прыватны, беларуская | 3 на 6 месяцаў | 30 |

### Жыхарам Беларусі (сваякам і знаёмым)

| | Назва, выдавец, мова | Пэрыядыч. друку | Кошт, $ |
|---|---|---|---|
| Газэты: | Наша Ніва, прыватнае, беларуская | 4 на месяц | 10 |
| | Наша Слова, ТБМ, беларуская | 4 на месяц | 7 |
| | Новы час, ТБМ, беларуская | 2 на месяц | 10 |
| | Культура, дзяржаўная, беларуская | 4 на месяц | 10 |
| | Літаратура і Мастацтва, дзярж., бел. | 4 на месяц | 10 |

Вы можаце выпісаць і іншыя выданьні зь Беларусі. Па інфармацыю зьвяртайцеся на адрас: ***hazetabielarus@att.net***

***Заўвага**: газэты дасылаюцца авіяпоштаю, часапісы звычайнаю.*

***Падпіска працягваецца да 18 чэрвеня 2005 году.***

*Замовы й аплату сваечасова дасылайце ў рэдакцыю на адрас:*
***BIELARUS***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

*Чэкі, калі ласка, выпісайце на імя **BIELARUS**.*

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД ГАЗЭТЫ "БЕЛАРУС" АХВЯРАВАЛІ:

А. Кіпель .....240
Б. Данілюк .....50
М. Каранеўскі .....50
С. Міровіч .....50
К. Акула .....30
Ж. Наумчык .....30
В. Піерс-Адашкевіч .....30
А. Субота .....30
Н. Ткачук .....30
С. Будкевіч .....20

**Заміж кветак на магілу сьв. пам. Янкі АЗАРКІ:**

Л. Кажан .....60
Л. Стагановіч .....50
А. Сямёноў .....50
Л. Шурак .....50
М. Каранеўскі .....25

**Заміж кветак на магілу сьв. пам. Барыса РАГУЛІ:**

В. Грыцук .....100

**Заміж кветак на магілу М. КАЗЬЛЯКОЎСКАГА:**

М. Каранеўскі .....25

**Справаздача ад Рыгора ШАЙПАКА з Аўстраліі:**

Р. і В. Шайпак. .аўстр.$ ... 80
Х. Лашук .....70
В. Каралюк .....50
З. Кадняк .....50
Спн. Сдлярэвіч .....50

**Шчыры дзякуй!**


**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
Выдае штомесячна:
*Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне*
Сусьветнае сеціва: *baza-belarus.org*
Падпіска $30 на год.
Чэкі выпісвайце на BIELARUS

**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
Published monthly by
**Belsrusan American Ass'n, Inc.**
Subscription $30 yearly
Make checks payable to ***BIELARUS***

Рэдагуе калегія.
Адказны рэдактар Марат КЛАКОЦКІ
Падпіска Сяргей ТРЫГУБОВІЧ

Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.
Перадрук дазваляецца толькі пры ўмове зазначэньня крыніцы.



Адрас для допісаў і кантактаў:
***BIELARUS***
***P.O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
E-mail:
***hazetabielarus@att.net***
Сусьветнае сеціва:
***www.bielarus.org***
ISSN 1054-9455
Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.